# ЗЬМЕСТ.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопіс.

II год выданьня Лістапад 1926 г. № 11

## Сельска-гаспадарчае бадаўніцтва пасьля Кастрычніка.



Савецкая ўлада з першых дзён свайго існаваньня адчыніла перад вёскай вялізныя магчымасьці. Прыватная ўласнасьць на зямлю была зьнішчана ў першую чаргу. Усе непрацоўныя землі, якія зьяўляліся крыніцай для чужаедаў-абшарнікаў, духавенства, сельскае буржуазіі, былі ад гэтых клясаў адабраны і аддадзены ў працоўнае карыстаньне безьзямельнага і малазямельнага сялянства.

У межах толькі аднэй Беларусі было перададзена 1.042.000 дзес., на якой організаваны дзесяткі тысяч сялянскіх двароў. Апроч таго, утворан і разьмяркоўваецца дадатковы фонд у разьмеры 585.000 дзес.

У зьвязку з ліквідацыяй прыватнай уласнасьці на зямлю, былі забаронены купля-продаж зямлі, дзякуючы чаму ўсе сродкі савецкае дзяржавы і сродкі самога сялянства накіроўваюцца для *організацыі, узмацненьня і разьвіцьця самой сельскай гаспадаркі*. Наша савецкая зямельная політыка гэтым самым стварае спрыяючыя пэрспэктывы і умовы для вытворчасьці. Замест таго, што большую частку сваіх накапленьняў вёска аддавала на нерацыянальную куплю зямлі, як было ў стары час, цяпер усе свае зьберажэньні сялянства аддае на лепшую організацыю сваёй гаспадаркі. Пры такой політыцы, натуральна, трэба было чакаць, што сельска-гаспадарчая культура ў вёсцы пасунецца наперад сямімільнымі крокамі.

Мы можам паставіць перад кожнай сялянскай гаспадаркай практычную і рэальную задачу—павялічыць ураджай з кожнай дзесяціны ў два разы (замест 40 п. жыта з дзесяціны атрымаць 80). У гэтых адносінах дзяржава прыме ўсе меры да таго, каб перабудаваць сельскую гаспадарку і зрабіць яе больш інтэнсыўнай і прадукцыйнай, і такім чынам на тэй плошчы зямлі, якая ёсьць, павялічыць прадукцыйнасьць у два разы, што заменіць адпаведнае пашырэньне зямельнае плошчы кожнай гаспадаркі. Так практычна пастаўлена зямельнае пытаньне перад працоўнымі масамі вёскі і так яго трэба вырашаць. Усякія іншыя спосабы і пастаноўкі могуць толькі затармазіць наша будаўніцтва па сельскай гаспадарцы.

Організацыя інтэнсыўнага земляробства патрабуе, апроч нашае актыўнасьці і добрай волі, яшчэ і патрэбных капіталаў, якімі пакуль што не ўладае наша сельская гаспадарка; загэтым, хоць рост інтэнсыфікацыі будзе праходзіць хутчэй, чым да вайны, але ў той-жа час ён будзе мець пэўную граніцу.

Значыцца, ня ўсе гаспадаркі адразу стануць інтэнсыўнымі і значная колькасьць іх пакуль што будзе ў экстэнсыўным, або паўэкстэнсыўным стане і няўхільна будзе вынікаць патрабаваньне з боку такіх

гаспадарак на пашырэньне зямельнае тэрыторыі. Патрэбнасьць у пашырэньні зямельнае плошчы ва умовах Беларусі можа ў значных разьмерах задавальняцца за лік нявыгодных (галоўным чынам забалочаных) зямель. Калі гэтыя землі знаходзіліся па-за гаспадарчым зваротам пры старым ладзе, дзякуючы прыватнай уласнасьці на зямлю, то цяпер Савецкая ўлада павінна накіраваць усе сродкі на культуру гэтых земляў і ў бліжэйшы час прыстасаваць іх пад сельска-гаспадарчыя ўгодзьдзі. Культура зямлі стаіць і перад насельніцтвам, як першачарговая задача.

Новая эканамічная політыка, якая дае кожнаму селяніну права свабодна распараджацца прадуктамі свайго вырабу, стварыла магчымасьць для кожнага селяніна павялічваць і паляпшаць сваю вытворчасьць, усебакова яе коопэруючы. У выніку ўсяго гэтага Савецкая ўлада так ясна паставіла перад сялянствам задачу гаспадарчага будаўніцтва, як ніхто да гэтага часу ня ставіў.

У мінулым годзе па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэту толькі на сельскую гаспадарку было асыгнавана і выдана каля 6.600.000 руб., між тым, як па сельска-гаспадарчаму падатку было ўзята з насельніцтва каля 7.000.000 рублёў. Гэта—беззваротныя асыгнаваньні, у іх не ўваходзяць асыгнаваньні па надзвычайнаму бюджэту і крэдыту.

Бясспрэчна, што нашы мерапрыёмствы па сельскай гаспадарцы, у залежнасьці ад нашага гаспадарчага росту, у далейшым будуць з кожным годам пашырацца. Усе сродкі, асыгнаваныя на сельскую гаспадарку, мы накіроўваем у першую чаргу на такія мерапрыемствы, правядзеньне якіх забясьпечвала-б грунтоўную перабудову заняпалай сельскай гаспадаркі і стварыліся-б патрэбныя прадпасылкі для яго хуткага палепшаньня пры дапамозе ініцыятывы і сродкаў самога сялянства.

Такімі мерапрыемствамі ў першую чаргу зьяўляюцца земляўпарадкаваньне і мэліорацыя, пры правядзеньні якіх можна правільна організаваць і прыстасаваць для інтэнсыўнай гаспадаркі зямельную тэрыторыю новых пасёлкаў і кожнага двара ў паасобку, а таксама абслужыць іх неабходнымі агрыкультурнымі мерапрыемствамі (пераход на шматпольле, прадастаўленьне для гэтай мэты патрэбнага насеньня і ўгнаеньня). У зьвязку з тэндэнцыямі і кірункамі гэтых гаспадарак, організаваць спэцыяльныя віды сельска-гаспадарчай коопэрацыі з такім разьлікам, каб далейшы рост перабудаваных гаспадарак ішоў па шляху коопэрацыйнага будаўніцтва. Разам з правядзеньнем гэтых мерапрыемстваў, накіраваных да ўзьняцьця вытворчасьці кожнай гаспадаркі, вырашаюцца пытаньні здабываньня корму, палепшаньне гатункаў жывёлы, палепшаньне насеннага матар'ялу, здабываньне патрэбнага для гаспадаркі новага насеньня, меры па аказаньню вэтэрынарнае дапамогі і інш.

Па ўсіх галінах сельскае гаспадаркі праводзяцца шырокія мерапрыемствы. Напрыклад, калі ўзяць земляўпарадкаваньне, у якім адчуваецца пільная патрэба ў кожным паселішчы, то мы ўбачым, што яно праходзіць больш шпаркім тэмпам, чым гэта было да рэвалюцыі. За ўсе гады да рэвалюцыі на тэрыторыі Беларусі было земляўпарадкавана 784.542 дзесяціны, а ў бягучым годзе земляўпарадкаваньнем будзе абхвачана, прыкладна, каля 426.000 дзесяцін, што разам з земленадзяленьнем дасьць 53.000 упарадкаваных двароў. Выходзіць, што за адзін год мы цяпер робім больш паловы таго, што было зроблена да

рэвалюцыі за дзесяць год. Па мэліорацыі да рэвалюцыі на сялянскіх землях ніякіх мерапрыемстваў не праводзілася. Зараз мы маем каля 500 мэліорацыйных таварыстваў, якія праводзяць асушку каля 80.000 гэктараў балот. Агрыкультурная дапамога сярод асноўнай часткі сялянства (беднякоў і сераднякоў) у старыя часы не праводзілася. Аграномы працавалі толькі на абшарніцкіх і кулацкіх гаспадарках. У даны момант уся праца савецкай аграноміі накіравана на абслугоўваньне масавай сялянскай гаспадаркі.

Вынікі па гэтай лініі ёсьць. Так, напрыклад, пераводзіцца на шматпольле 150.000 дзесяцін зямлі, на якой знаходзіцца 21.000 гаспадарак. Ачышчана каля 20 проц. насеньня, праведзена 222 курсаў, якія прапусьцілі каля 11.000 сялян, організавана каля 5.000 розных паказальных вучасткаў. Амаль у кожным раёне, дзе няма акруговых, праводзяцца раённыя выстаўкі, на якіх тысячы сялянскіх гаспадарак дэманструюць свае дасягненьні па сельскай гаспадарцы. Наладжана і з кожным годам пашыраецца плянавая дастаўка сельскай гаспадарцы патрэбных сродкаў вытворчасьці (прылады, машыны, насеньне, угнаеньне). Праводзяцца массавыя мерапрыемствы па палепшаньню сялянскага жывёлаводзтва,—адбор рагатае жывёлы, вырашчываньне маладняка, організацыя малочных арцеляў, організацыя племянных сьвінных заводаў і г. д. Пад уплывам гэтых мерапрыемстваў і пры шырокай ініцыятыве сялянства, кожны год організоўваюцца тысячы новых культурных сельскіх гаспадарак, і пры тым не адзінкамі, як гэта было да рэвалюцыі, а цэлымі пасёлкамі, якія зьяўляюцца пераходнай формай да новага колектыўнага земляробства. Наша мэта—дасягнуць даваеннага ўзроўня—засталася ўжо ззаду, і к *дзевятай гадавіне Кастрычніка мы ўступаем на новы шлях будаўніцтва,* якое павінна складацца з поўнай, каранной і ўсебаковай перабудовы ўсяе гаспадаркі вёскі.

У сваім агульным сельска-гаспадарчым будаўніцтве мы ні на хвіліну не забываліся і ня будзем забывацца пра нашу клясавую лінію. У самым цяжкім і рабскім становішчы знаходзілася да рэвалюцыі бедната вёскі. Разам з ёю жорстка эксплёатаваўся і прыгнятаўся кулакамі і абшарнікамі і серадняк. У час рэвалюцыі і грамадзянскай вайны гэтыя клясавыя праслойкі былі актыўнымі прыхільнікамі рабочае клясы і ўсё гэта імі рабіліся дзеля палепшаньня свайго становішча пры сучасным новым савецкім ладзе.

Было-б памылкаю сказаць цяпер, што ў нас у вёсцы няма беднякоў, што мы іх усім задаволілі на сто процантаў, што становішча серадняка такое добрае, што далей ехаць няма куды. Сама прырода і характар дробнай сялянскай вытворчасьці такія, што ў процэсе свайго разьвіцьця яна кожны год будзе вылучаць нам новых беднякоў да таго часу, пакуль мы ня створым буйнага сацыялістычнага земляробства на коопэрацыйных і колектыўных пачатках. Для прыкладу вазьмеце любую нават моцную сялянскую гаспадарку і падзяліце між трох-чатырох братоў, і ў вас адразу замест аднэй моцнай гаспадаркі будзе група бядняцкіх. Як і раней, так і ў даны момант большая частка сялянскіх гаспадарак трагічна верціцца ў зачараваным коле пэрыядычных падзелаў. Больш-менш забясьпечаная зямлёй гаспадарка паступова разьвіваецца, але як толькі ў гаспадарцы падрасьлі мужчыны,—пачынаюць дзяліцца, пасьля гэтага гаспадарка падае і далейшае сваё эканамічнае разьвіцьцё пачынае з таго самага, з чаго пачынала да дзяльбы. Да гэтага трэба дадаць яшчэ розныя стыхійныя

няшчасьці, якія часта бываюць у дробных гаспадарках. Значыцца, мы здолеем ліквідаваць процэсы драбленьня сялянскай гаспадаркі, пасьля таго, як каранным чынам перабудуем, пагалоўна коопэруем і індустрыялізуем сялянскую гаспадарку. У гэтым кірунку і праводзіцца ўся наша аграрная політыка. Практычны адбітак у нашай клясавай політыцы мы маем у цэлай сыстэме мерапрыемстваў, якія мы штогодна праводзім у вёсцы і аказваем значную дапамогу бедняку і серадняку. Так, напрыклад, увесь вялізны фонд непрацоўных зямель і дадатковы фонд аддадзен і аддаецца ў іх працоўнае карыстаньне і гэтым самым у значнай меры паслабляецца, а ў большасьці гаспадарак зусім ліквідаваны зямельны голад; і цяпер шляхам мэліорацыі за кошт дзяржавы падрыхтоўваюцца новыя фонды зямель.

Штогодна бядняцкія гаспадаркі звальняюцца ад сельска-гаспадарчага падатку, ва ўсіх бядняцкіх гаспадарках, як пры земляўпарадкаваньні, так і пры землянадзяленьні, праца праводзіцца дарэмна; вылучаны спэцыяльны доўгатэрміновы крэдыт на пабудову, набыцьцё жывога інвэнтару і створан спэцыяльны фонд беднаты, які ідзе на цэлявыя патрэбы гэтых гаспадарак, даецца бясплатна і ў крэдыт лясны матар'ял і г. д. Значную долю ўсяго крэдыту, бясплатнай агранамічнай і іншай дапамогі мае і серадняк. Як вынік нашых мерапрыемстваў, мы маем значны процант пераходу бядняцкіх гаспадарак у групу серадняцкіх. Серадняцкія гаспадаркі пашыраюцца і хутка інтэнсыфікуюцца, што стварае грунт для іх агульнага коопэраваньня, якое хутка шырыцца.

Клясавая стаўка рабочага на саюз з бедняком і серадняком за дзевяць год рэвалюцыі цалком апраўдалася, як з політычнага боку, так і ў нашым гаспадарчым будаўніцтве.

Рэальныя магчымасьці і патрэбнасьці пабудаваць сацыялістычную прамысловасьць і сацыялістычнае земляробства цяпер разумее рабочы і гэта разумее таксама бядняк і серадняк у вёсцы.

Але разьвіваючы найбольш вытворчыя сілы сельскае гаспадаркі, мы разам з гэтым павінны ўсе мерапрыемствы сваёй палітыкі праводзіць так, каб адначасна з ростам адбывалася і організацыя сацыялістычных формаў гэтае гаспадаркі. Задача сёнешняга дню ня толькі ўзьнімаць сельскую гаспадарку, але і перабудоўваць яе так, каб яна ішла наперад да сацыялізму.

Выкарыстаўшы ў мінулыя гады ўсе спрыяючыя ўмовы Кастрычнікавай рэвалюцыі для нашага пасьпешнага будаўніцтва сельскай гаспадаркі, мы ў дзесятую гадавіну Кастрычніка павінны ўступіць пад лёзунгам шырокае працы па організацыі соцыялістычнага земляробства.

**Зьмітро Прышчэпаў.**

# ДЗЯРЖАЎНАЯ ДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Ураджай на балоце Кастрычнікавага Мэліорацыйнага Таварыства.

*(Вёска Сьвятое, Жлобінскага раёну).*

Даведаўшыся з вопытаў, што на балоце вельмі добра расьце збожжа, сяляне нашай вёскі вясной г. г. засеялі 15 дзесяцін з-пад балота розным збожжам. Чаго там толькі ня было: *авёс, проса, ячмень, пшаніца, выка*, авёс з падсевам траў і з асыпных расьлін—*бульба, буракі, бручка, капуста, гуркі* і г. д. Усе гэтыя расьліны вырасьлі за лета вельмі добра: *авёс* даў 135 пуд. зярна і 160 п. саломы на дзесяціну, *проса*—120 п. зярна і 150 п. саломы; ячмень—80 п. зярна і 100 п. саломы; пшаніцу падлічыць не ўдалося; асыпныя—бульба дала сам 9, буракі, морква і бручка вырасьлі таксама вельмі добра; капуста—да 10 ф. качаны, гуркі—3 $1/2$ ф. шт. Сабраўшы ўсё гэта, сяляне павезьлі на акруговую выстаўку экспонаты і за працу на балоце атрымалі ў прэмію *жалезнага каня (трактар)*. Трэба спадзявацца, што т-ва разгорне сваю працу, асабліва вёска Сьвятое.

Селянін М. Карунчык.

## Першы раз жалезны конь на балоце.

16 кастрычніка г. г. Кастрычнікаўскае мэліорацыйнае т-ва сьвяткавала першы дзень выпуску трактара для працы на балота. Праца-



Праца трактара на балоце Кастрычнікавага мэліорацыйнага т—ва.

ваць выехалі сяляне в. Сьвятое. Прыехаў на балота трактар па такой дарозе, дзе раней была вада і конь не прайшоў бы бяз калёс. Зьявіўшыся на места, пусьцілі трактар у работу. Як пайшоў наш трактар, дык прыемна глядзець было на ральлю, як яна лажыцца і сьцелецца. Аж дзівяцца нашы сябры, асабліва старыя. Папрыходзілі сяляне з вакалічных вёсак і дзівіліся на работу трактара на тым балоце, дзе раней нельга было чалавеку прайсьці. І ўсё гэта зроблена сялянамі нашай вёскі. Я маю надзею, што сяляне другіх вёсак нашага т-ва возьмуцца за працу так, як працуюць сяляне вёскі Сьвятое. Бо цяпер усе ўбачылі і паверылі, што на балоце ёсьць багацьця больш, чым на нашым мінэральным полі.

Сел. К.

---

# Як праходзілі с.-г. выстаўкі ў 1926 г.

Стары уклад малакультурнай сельскай гаспадаркі ня так проста зьмяніць на новы і лепшы. Вось чаму сельска-гаспадарчыя выстаўкі і гэтага году падобна мінуламу, цягнулі на паказ такую сялянскую гаспадарку, якая заводзіць кораньплоды, сее травы (канюшыну, выку, сэрадэлю), асушае і вырабляе балота, паляпшае молочную жывёлагадоўлю і г. д.

І ў гэтым годзе с.-г. выстаўкі праводзіліся па рознаму—у адных акругах толькі акруговыя, а ў іншых—адны раённыя. Якім аддаць перавагу—пытаньне спрэчнае, але ў гэтым годзе здарылася так, што ўсе акруговыя выстаўкі былі наладжаны далекавата ад гораду і ня былі шырока выкарыстаны сялянскімі экскурсіямі. З гэтай прычыны, пэўна, перавагу трэба аддаваць раённым выстаўкам, якія больш даступны сялянству.

Вядома, раённая выстаўка мае амаль аднастайныя экспонаты, але каб іх уразнастаіць, то можна лепшыя экспонаты аднаго раёну пасылаць у другі суседні і наадварот.

Усе раённыя выстаўкі ў гэтым годзе былі даволі багатымі на экспонаты. С.-г. выстаўка ўжо раз‘агітавала сябе.

Але тут яшчэ захаваўся адзін дрэнны бок. Шмат сялян выстаўляюць свае экспонаты толькі для таго, каб атрымаць прэмію. Калі здараецца, што прэміі яму не прысудзілі, то на другі год такі селянін і не паказвае сваіх экспонатаў. Гэта дрэнная зьява. Выходзіць, што тут не разумеюць значэньня с.-г. выстаўкі, як спосабу агропрапаганды, ці як школы да лепшай гаспадаркі.

Прэміі атрымоўваюць некалькі гаспадароў, якія найбольш выявілі сябе, а выступленьне на выстаўцы павінна быць грамадзкім абавязкам кожнага больш-менш культурнага гаспадара. На яго экспонатах і працы будуць вучыцца сотні менш культурных сялян. Вось гэтым і ацэньваецца вялікая роля с.-г. выставак, як спосабу агропрапаганды.

Усе раённыя с.-г. выстаўкі і ў гэтым годзе далі шмат матар‘ялаў вучастковым аграномам для працы на с.-г. курсах, у пастаноўцы паказальных досьледаў і г. д.

Акруговыя-ж выстаўкі мо‘ лепш праводзіць праз адзін ці два гады. У такім разе будзе больш прыметным кожнае новае дасягненьне.

З боку прэміраваньня сялян на с.-г. выстаўках у гэтым годзе трэба адзначыць адзін новы падыход: *прэміраваньне с.-г. літаратурай.*

Кніжныя прэміі былі ўведзены Слуцкай, Магілеўскай і Калінінскай акругамі і некаторымі раёнамі Менскай акругі. На ўсіх гэтых выстаўках сяляне былі здаволены кніжнымі прэміямі, ня менш, чым прэміямі з с.-г. прыладаў. Прэміраваньне с.-г. літаратурай яшчэ і тым цікава, што яно больш яскрава вызначае запраўднае прызначэньне с.-г. выстаўкі, як школы да культурнай сельскай гаспадаркі*).

С. Т.

## 3-я раённая с.-г. выстаўка ў г. Мсьціславе.

19 і 20 верасьня ў г. Мсьціславе адбылася с.-г. і саматужна-прамысловая выстаўка, якая мела аддзелы паляводзтва, садоўніцтва, гародніцтва, буйнай і дробнай жывёлы, с.-г. машын і прыладаў, пчалярства і саматужнай прамысловасьці. Акрамя таго, выстаўка мела павільёны для аграчасткі, вэтэрынарыі, лясьніцтва, Інстытуту глуханямых, пэдтэхнікуму, ЕПО, с.-г. Акадэміі і кутка Леніна.

Тлумачэньні на выстаўцы давалі 10 аграномаў, 2 лесаводы, вэтурач і некалькі спэцыялістых па іншых павільёнах.

Параўнаем гэту выстаўку з мінулымі часамі.

| АДДЗЕЛЫ | 1926 г. | 1925 г. | 1924 г. |
|---|---|---|---|
| Па паляводзтву . . | 106 | 68 | Усяго |
| „ гародніцтву . . | 298 | — | — |
| „ садоўніцтву . . | 55 | 25 | — |
| „ пчалярству . . | 28 | 15 | 251 |
| „ каняводзтву . . | 119 | — | — |
| „ буйнай рагатай жывёле | 29 | Усяго па жывёлагадоўлі 333 | — |
| „ аўцаводзтву . . | 25 | — | — |
| „ сьвінаводзтву . . | 6 | — | — |
| „ птушніцтву . . | 10 | — | — |
| „ саматужнай прамыслов. | 57 | 47 | — |
| „ аграчастцы . . | 45 | 65 | — |
| „ с.-г. машынах . . | 20 | — | — |
| „ лясному аддзелу . | 33 | — | — |
| „ с.-г. Акадэміі . . | 47 | — | — |
| „ вэтэрынарыі . . | 8 | 5 | — |
| Усяго . | 886 | 572 | 251 |

*) Далей рэдакцыя прыводзіць фактычны матар'ял аб с.-г. выстаўках.

Далей з таблічкі відаць лік прэмій і сума прэміравальных грошай па гадох:

| Гады | Сума | Колькасьць прэмій | Дыплемаў |
|---|---|---|---|
| 1924 | 265 р. | 19 | — |
| 1925 | 375 „ | 55 | 55 |
| 1926 | 388 „ | 43 | 90 |

На першую прэмію прыходзілася экспонатаў: у 1924 г.—13, у 1925 г.—10,5, у 1926 г.—18,6.

У выстаўцы прымалі ўдзел саўхоз Лютыя-Бобрыкі, колектыўных гаспадарак—2, сялянскіх гаспадарак—246; з колектыўных гаспадарак зьвяртала на сябе ўвагу насельніцтва Вяхранская камуна.

Выстаўка мела такія сродкі:

| | |
|---|---|
| Дзяржбюджэт—179 руб. | |
| Бюджэт РВК—302 „ 69 к. | |
| Крэдытн. т-в— 25 „ | |
| ЕПО — 25 „ | |
| Усяго—531 руб. 69 к. | |

| | |
|---|---|
| Расход на арг. выстаўк. | —152 р. 6 к |
| „ на прэміі | —388 „ 97 „ |
| Усяго | —541 р. 3 к. |

Прэміі ў гэтым годзе выдаваліся выключна натурай, акрамя аднэй прэміі ў 5 руб. за птушніцтва. У ліку прэмій было 8 раманаўскіх бараноў і 4 кабанчыкі буйнай іоркшырскай пароды, якіх даў для выс-



Раённая с.-г. выстаўка ў г. Мсьціславе 19-20 верасьня 1926 г.

таўкі саўхоз Лютыя-Бобрыкі. Здавальненьне сялян ад гэтага было аграмадным. „Вось дык прэмія, глянь, пішчыць“—казалі сяляне, паказваючы на мяшок з парасём. Лік глядачоў выстаўкі правышаў 10 тыс. чал., а ў мінулым годзе было зарэгістравана каля 3 тыс. чал.

Колькасьць экспонатаў (агульная) узрастае з году ў год. Вельмі моцна ўзрасла колькасьць экспонатаў расьлінаводзтва. Паменшылася

ў 1926 г. колькасьць экспанатаў па жывёлагадоўлі. Паніжаная лічба прыпадае на буйную рагатую скаціну з прычыны дрэннай пагоды.

Цяпер адзначым некаторыя экспанаты выстаўкі. Паказаная фотаграфія гаворыць сама за сябе: вось жанчына сядзіць на фінскім жарабку, вось селянін Валахоўскі на чыстакроўным англа-арабе, а вось другі селянін трымае пекнага ангельскага скакуна. Далей—першэроны, арлоўскія рысакі, ардэны і інш. Багата Мсьціслаўшчына канямі!

У пчалярстве заслугоўвае ўвагі факт, што сярод сялянства хутка пашыраюцца рамовыя вульлі. Адзін з сялян паказаў вынікі наглядань-ня за мёдазборам праз тры гады—навуковая праца.

З птушак на выстаўцы былі добрыя куры пароды орпінгтон, а таксама і іх мэтысы першага і другога калена. Сяляне вельмі цікавіліся працай з гэтымі курамі.

У паляводзтве выдзяляюцца ільны-даўгунцы, якія занялі на Мсьціслаўшчыне відочнае месца ў шэрагу інтэнсыўных расьлін. Вельмі добрыя былі на выстаўцы аўсы швэдзкага тыпу, а таксама двухрадковыя ячмяні.

З гароднiны былі паказаны галоўным чынам кармовыя буракі і турнэпс, а таксама сталовыя сарты буракоў, морквы, гуркоў і інш. Кармовыя караньплоды пакуль што займаюць месца ў гародзе, але з кожным годам пашыраюцца.

Трэба адзначыць, што сёлета пайшоў на выстаўку масавы селянін і вельмі яскрава выявіў зацікаўленасьць у перабудове гаспадаркі на новы лад. Селянін ужо добра зразумеў словы Ільліча, што „пастараму жыць немагчыма“.

З гэтай думкай селянін і пайшоў на выстаўку. І. К.

## Сельска-гаспадарчая выстаўка ў Падблоні.

*(Меншчына).*

У дзень „Сьвята Ўраджаю“ 14-15 кастрычніка была ў Падблоні раённая с.-г. і саматужная выстаўка. На выстаўцы было паказана 700 экспанатаў (жывёлагадоўля, саматужніцтва, гародніцтва, паляводзтва, вэтэрынарыя і 2 сялянскіх севазвароты—А. Карнейчыка 5-х польны і Пархімчыка 8-мі польны).

На выстаўцы больш усяго было паказана коранаплодаў, экспанатаў па садоўніцтву і гародніцтву. Былі сялянскія кармовыя буракі па 10 кілёгр. шт. (гр. Гарбуз з вёскі Ананіч, Пудзіцкага с/с.) і з ураджаем да 2400 пуд. на дзес.

Было шмат экспанатаў гародніцтва і садоўніцтва гр. Язубчыка, які атрымоўвае і жыта па 240 пуд. з дзес. Жывёлу добрую паказаў дзяржконзавод „Вялень“ (16 п. 5 ф. кныр, 14 п. сьвіньня). Шмат было і заводзкіх коняй.

14-га кастрычніка ў 12 гадзін дня быў організованы мітынг. Сялян вітаў райаграном Азерскі, ад АКРЗА—т. Шэлягаў, а ад сялян выступаў А. Карнейчык.

На выстаўцы пабывала за 2 дні да 3000 сялян (пераважна моладзі). Усе ўважліва слухалі тлумачэньні, як мець добрыя ўраджаі, як гадаваць прышчэпы і г. д.

Увечары экспэртная камісія агледзела экспонаты і 15 кастрычніка абвесьціла, каму дадзены прэміі. Была тут і трава „суданка“ Карнейчыка, які летась атрымаў з двух укосаў 600 пуд. сена з дзес.

Дыплёмы 1-ай ступені атрымалі сял. А. Карнейчык, Каток і Ажгірэй. Гэта перадавыя сяляне, яны чытаюць і вучацца па кніжках, вядуць досьледы. Наогул, выстаўка мела добры ўплыў на большы засеў караньплодаў, гадоўлю прышчэпаў і заводзкай скаціны. Таксама вельмі зацікавіліся сяляне двума севазваротамі сваіх сялян-культурнікаў.

Наогул, наша жывёлагадоўля і караньплоды за гэты год значна пасунуліся наперад.

Сел. А. К.

## Сьвята ўраджаю ў Горках.

У гэтым годзе ў Горках падрыхтоўка да „Сьвята Ўраджаю“ вялася сіламі мясцовай аграноміі і найбольш студэнтамі с.-г. Акадэміі. 10-га кастрычніка па с/с. адбыліся невялічкія с.-г. выстаўкі. Большасьць было тут экспонатаў па паляводзтву, гародніцтву і садоўніцтву. Зьвярталі на сябе увагу дзіцячыя гародныя клюбы.

Выстаўкі гэтыя былі організаваны ў вясковых школах і прайшлі досыць жвава. Лік гледачоў дасягаў 100 чал.

14-га кастрычніка была наладжана 2-х дзённая выстаўка ў Горках. Райвыканком адпусьціў для гэтае мэты памяшканьне ў горадзе. Занята і запоўнена было тры пакоі: адзін пакой з экспонатамі дзіцячых гародных клюбаў усяго раёну; другі—куток агрaпрапаганды і землябудаўніцтва; трэці—куток мэліорацыі і культуры балот, дасьледчага поля с.-г. Акадэміі прыватнага земляробства, садоўніцтва і гародніцтва. Надзвычайную ўвагу і асноўнае месца трэба адвесьці пакою з экспонатамі дзіцячых гародніх клюбаў. Усе клюбы прадставілі турнэпс Бартафельскі вагою 10—20 ф. шт., буракі ягіпецкія, мамут і інш. 5—8 ф. шт., моркву чырвоную, доўгую і інш. 1—3 ф. шт., бручку чампіён і краснасельскую 10—20 ф. шт., капусту браўншвэйскую, сабураўку, славу, швэцкую 20—25 ф. шт., гарбузы 12,5—26,5 ф. шт., рэпу—10 ф. шт.

Усё гэта было прадстаўлена не адзінкамі і мела прыгожы выгляд. Асабліва выдзяліліся клюбы Задарожскі, Шарынскі, Рэктнянскі, Нівіглянскі, якія аднесены к І катэгорыі, а астатнія к ІІ-ой і ІІІ-й. Клюбнікі тут самі прысутнічалі і разам з кіраўнікамі-студэнтамі давалі тлумачэньні. Усяго ў 11 клюбах аб'яднана 507 дзяцей, з якіх 62 проц. вучняў ва ўзросьце ад 9 да 16 гадоў, піонэры.

Куток аграпрапаганды і куток зямлябудаўніцтва, мелі плякаты, дыяграмы, узоры розных культур, тыпы севазвароту і г. д.

Куток мэліорацыі і паляпшэньня балот акрамя плякатаў і дыяграм меў снапкі траў і г. д.

Быў куток дасьледчага поля пры с.-г. Акадэміі з узорамі досьледаў і лічбамі на дыяграмах, з абразцамі рознага насеньня траў, якія растуць на полі. Катэдра прыватнага земляробства з дасьледчага поля прадставіла бульбы 26 сартоў, буракоў карм. 13 сартоў, бручкі 4 сарты і турнэпсу 3 сарты.

Катэдра гародніцтва прадставіла розную гародніну. Па садоўніцтву—розныя дзічкі і прышчэпы, як трывалыя для Горацкага раёну.

За два дні выстаўка прапусьціла 800 дзяцей школьнікаў пераважна Горацкіх і ваколічных школ і дарослых сялян звыш 2-х тысяч. У прэміі агрaпунктам прыдбана яблынь 2-х годак 100 шт. сажанцаўдзічак—250 шт.

Добрымі бакамі выстаўкі была наладжанасьць абслугоўваньнем, дзе студэнты-аграномы, кіраўнікі клюбаў і інш. вельмі ўважліва і зразумела давалі тлумачэньні, чыталі цэлыя лекцыі. Такая маленькая выстаўка паказала шырокай масе, як весьці працу, пачынаючы з дзіцячых гародных клюбаў праз дзяцей і пераходзячы да грамадзкага севазвароту, пашырэньня садоўніцтва, жывёлагадоўлі і палепшаньня паляводзтва.

Студэнт **П. М. Сяргейчык.**

## Другі падыход да с.-г. выставак.

Летась сельска-гаспадарчая выстаўка ў нашым раёне трохі спазьнілася. Была ўжо глыбокая восень. Шмат сялян, у якіх і было паказаць што, расходвалі свае экспонаты. А вось сёлета выстаўка ў нас была ўжо раней, 27 верасьня. Праўда, крыху перашкодзіла дрэннае надвор'е, бо цэлы тыдзень перад гэтым днём ішлі дажджы. Па вёсках аб выстаўцы ня было добра растлумачана, бо нельга было сабраць сходаў з-за гразі. Гэта адбілася і на выстаўцы. Экспонатаў было трохі менш, як летась, але-ж быў і добры бок на выстаўцы. Сёлета ўжо сяляне імкнуліся ня толькі выставіць выпадковы бурак у 15 фунтаў, альбо качан капусты ў пуд, а і паказаць якасьць свайго збожжа альбо гародніны, на якой глебе і на якім угнаеньні яны расьлі, ці багата сабралася з дзесяціны і г. д.

Такі настрой быў і ў выставачнай камісіі. Дыяграмы, плякаты і малюнкі далічаныя да экспонатаў давалі мажлівасьць атрымаць больш практычнай карысьці ад выстаўкі.

Зусім другі падыход быў ў камісіі і да ацэнкі экспонатаў. Быў клясавы падыход. Камісія глядзела на умовы, у якіх гаспадарка дайшла да тых ці іншых дасягненьняў.

Прыклад, летась першую прэмію атрымаў на выстаўцы сталыпінскі хутаранін за „прыгожага“ жарабка. Звычайнаму-ж селянінусерадняку ўжо трудней гэта зрабіць.

І вось сёлета першую прэмію за каня атрымаў даволі бедны селянін з нашай вёскі, якому летась не далі за гэтага каня нават і ганаровага лісту.

Тое самае было і ў адносінах паляводзтва, гародніцтва і іншых галін гаспадаркі.

Сел. **А. Зорскі.**

(В. Малюшын, Чырвонапольскага раёну, Калінінщчына).

## Што пісалі пра „Дзень Ураджаю“ і с.-г. выстаўкі ў газэтах.

### Пасьля выстаўкі.

*(Ліст з Бабруйску, „Сав. Бел.“ № 228).*

1 кастрычніка зачынілася акруговая сельска-гаспадарчая і кустарна-прамысловая выстаўка, якая цягнулася 5 дзён.

Па паляводзтву выступіла 96 гаспадарак, з агульным лікам экспонатаў да 400, па жывёлаводзтву—85 гаспадарак да 200 экспонатаў, Садаводныя экспонаты прадстаўлены на выстаўцы былі 174 гаспадаркамі ў колькасьці да 700 штук.

Былі на выстаўцы і экспонаты, як вынік працы па мэліорацыі і лугаводзтву да 400 штук, куды ўвайшлі большаю часткаю Менская балотная і Турская дасьледчыя станцыі і мэліорацыйныя т-вы. Па лесаводзтву лік экспонатаў дасягнуў 150 штук; розных машын і прыладаў да 300 шт.

Заслугоўваюць асаблівай увагі некаторыя экспонаты, якія відавочна паказваюць дух сельскай гаспадаркі.

Вёска *Мамонтава*, Глускага раёну, выступала на выстаўцы колектыўна.

Добра адбіта выстаўкаю наша *жывёлаводзтва*—было шмат добрых пародзістых коняй, быкоў і малочных кароў.

З саматужніцтва нельга не адзначыць вынаходку сел. Зайцава Кірыла з Варатынскага сельсавету, II Бабруйскага раёну. Ён змайстраваў такія калёсы, што яны самі адлічваюць, колькі гаспадар праехаў вёрст.

Дыяграмы паказваюць, што саматужна-прамысловая коопэрацыя расьце.

Колькасьцю сялянства пабываўшага на выстаўцы пахваліцца нельга, але для тых, якія на ёй былі, выстаўка бязумойна зьявіцца штурхачом да падняцьця культуры гаспадаркі.

З недахватаў трэба адзначыць, што выстаўка была організавана крыху далёка ад гораду (5 вёрст).

Гасцадаром лепшых экспонатаў раздадзена 101 пахвальны ліст і 88 грашовых наград і трактар у 2000 руб., які атрымала Кастрычнікавае мэліорацыйнае т-ва за добрую працу на балоце.

## На шляхох да новай вёскі.

*(Аб Барысаўскай акруговай с.-г. выстаўцы, „Сав. Бел.“ № 216).*

Перш за ўсё зьдзіўляе амаль поўная адсутнасьць наведваючых. Гэта тлумачыцца, як чатырохвёрстнай адлегласьцю месца выстаўкі ад гораду, так і відочна дрэнным надвор'ем, а ў некаторых выпадках слаба наладжанай працай па організацыі сялянскіх экскурсій для агляду выстаўкі. Але і павярхоўны агляд выстаўленых экспонатаў характэрызуе тэмп і абхват ўздыму і разьвіцьця сельскай гаспадаркі акругі.

Рост сялянскай гаспадаркі асабліва выразна паказвае 16-ці гадовы Іван Бурка на гаспадарцы свайго бацькі. У гаспадарцы 5 дзес. сена-пахаці. У 1921 г. было тры галавы рагатае скаціны, у 1925 г. —5. У 1925 г. сабрана розных збожжавых культур на 44 пуды больш, чым у 1921 г.; бульбы—на 470 п. больш.

Выстаўленыя ў вялікай колькасьці экспонаты аддзелаў паляводзтва і садоўніцтва зьдзіўляюць вялізарнымі магчымасьцямі, якія хаваюцца ў земляробскім промысьле.

Выразна паказаны мэліорацыйны аддзел з культур-тэхнікай. Мізэрны пучок асакі і багацейшыя вынікі культурных пасеваў бяз слоў пераконваюць у неабходнасьці абярнуцца *тварам да балот акругі*.

Перавод на шматпольле дае гэткі малюнак: у 1924 г. перайшла 171 гаспадарка на плошчы 1737 дзес., у 1926 г.—3254 гаспадаркі на плошчы 19545 дзес.

Распаўсюджаньнем сел.-гасп. ведаў у 1921 г. абслужана 3530 слухачоў, у 1926 г. за 9 м-цаў—32.622 чал.

Побач з вялікімі дасягненьнямі ў організацыйнай частцы ёсьць і значныя недахваты.

Вельмі слаба была паказана праца нізавой с.-г. коопэрацыі акругі. Трэба пашкадаваць, што сяляне ня досыць поўна скарысталі вынікі выстаўкі.

## Сельска-гаспадарчая выстаўка ў Бялынкавычах.

*(„Наш Працаўнік", № 77).*

26-га верасьня ў Бялынкавічах адбылася другая раённая сел.-гас. выстаўка.

На выстаўцы зварочвалі на сябе ўвагу аддзелы гародніцтва і паляводзтва.

У аддзеле паляводзтва асабліва выдзяліліся экспонаты Салаўёва (гр. хут. Ворсаў), ён выставіў Іванаўскае жыта ростам больш двух аршын і пшаніцу *высокалітоўскую* каля $2^1/_2$ арш. і др. Побач стаяў станок канапель больш $2^1/_2$ арш. гр. Сталяварава з в. Баравой, яго-ж грэчка ў $1^1/_2$ арш. ростам.

Па садаўніцтву прадставіў гр. Салаўёў сьлівы па $^1/_4$ ф. і яблыкі каля фунта кожнае.

Аддзел жывёлагадоўлі быў у гэтым годзе меншы.

У часе выстаўкі адбыўся мітынг, на якім выступалі з прамовамі прадстаўнікі мясцовай улады, розных організацый і шмат сялян перадавікоў. Адзін селянін 60 гадоў у сваёй прамове сказаў што „*нашы дзяды і прадзяды таго ня бачылі, што мы бачым тут*".

---

# Яшчэ аб выніках працы Кастрычнікавага мэліорацыйнага т-ва.

З'організавалася Кастрычнікавае мэліорацыйнае таварыства з мэтай грунтоўна палепшыць балотную сенажаць.

За тры гады існаваньня яно налічвае каля 500 членаў, куды ўваходзяць гаспадары 5 вёсак, 5 выселкаў, 3-х хутароў і 1 мястэчка *), якія маюць 1500 дзес. балотнае сенажаці.

Ня гледзячы на тое, што з'організавалася таварыства ня так даўно, вынікі ўжо ёсьць. Увосень 1923 г. (у момант організацыі т-ва) сяброў было 75 чалавек, з іх актыўных 15 чал.; у 1924 г.—150 чал., у 1925 г.—350 чал., а ў сучасны момант налічваецца ўжо 500 чалавек, якія прымаюць актыўны ўдзел у палепшаньні сваёй сенажаці.

Працу сваю т-ва распачало капаньнем галоўнай магістральнай канавы, расчысткай сенажаці ад хмызьняку, карчоўкай.

Да гэтага году *пракапана канаў* каля 30 вёрст, *расчышчана ад хмызьняку* 100 дзес., *узарана 35 дзес.*, з якіх 12 дзес. прыняла культурны выгляд, дзе расьце авёс, проса, канюшына і іншыя палявыя расьліны, а 3 дзес. засеяна мешанінай траў.

Па падліках леташняга году вынікі такія: адна дзес. аўса дала *157 п.* зярна і 200 пуд. саломы, канюшына першага году—350 п. сена. Раней, да 1923 г., калі ніякае працы на сенажаці ня было, адна дзес.

---

*) В. Зьмяёўка, Сьвятое, Радуша, Касагі, Баршчоўка; выселкі—Янова, Сьвяціца, Забалоцьце, Кругі, Устрынь; хутары—Асташава, Старына, Вадзіцкага; м-ка Казімірава.

балота давала ў сярэднім 40 пуд. неспажыўнага сена-асакі, прычым касілася ня ўся плошча ў 1500 дзес., а толькі якіх-небудзь 200 дзес.; рэшта-ж балота не скарыстоўвалася.

Пасьля правядзеньня магістральнай канавы пачалі касіць усё балота, прычым на тэй плошчы, дзе быў толькі расчышчаны хмызьняк, ураджай падвоіўся і замест 40 пуд. асакі, сенажаць давала 75-80 пуд. сена лепшае якасьці.

Калі падлічыць усе выдаткі па апрацоўцы аднае дзесяціны і прыбыткі з тае плошчы, то ўбачым, што адна дзесяціна акупляе сябе ў адзін год.

У сярэднім расходы леташняга году былі такія:

| Расход | |
|---|---|
| Асушка 1 дзесяціны . . . | 20 р. |
| Вырубка хмызьняку . . . | 15 „ |
| Карчоўка . . . . . . . | 57 „ |
| Узорваньне. . . . . . . | 25 „ |
| Мешаніна аўса . . . . . | 35 „ |
| Насеньне траў . . . . . | 10 „ |
| Усяго | 162 р. |

| Прыход | |
|---|---|
| Атрымана з 1 дзес. аўса 157 п. па 1 р. за пуд . | 157 р. |
| Саломы 200 п. па 20 к. за пуд . . . . . . . | 40 „ |
| Усяго | 197 р. |

Як бачым, адна дзесяціна ад пасеву аўса ня толькі акупіла сябе ў 1 год, але дала яшчэ 35 руб. прыбытку.

Гэта паказвае, што займацца асушкай і наогул палепшаньнем сенажаці вельмі сходна. Савецкая ўлада са свайго боку дапамагае ўсім жадаючым стаць на правільны шлях палепшаньня гаспадаркі, дае розныя ільготы і крэдыт на гэта.

У 1923 г. Кастрычнікавае т-ва атрымала кароткатэрміновы 12 проц. крэдыт у 1500 руб. У 1925 г. атрымала ў часовае карыстаньне плуг „Сакка“, талеркавую барану Рандаля і дарэмна 1 пуд насеньня мешаніны траў.

У 1926 г. атрымала дзьве бараны Рандаля, 1 пружыноўку, 1 чугунны валец і 50 пудоў калі-фосфарнага ўгнаеньня. На 1927 г. т-ва атрымоўвае на 15 год 4 проц.—крэдыт на суму 6000 р. Акрамя таго, сябры таварыства атрымоўваюць ільготы на падставе агульных правіл—або поўнае аслабленьне ад падатку, або 10 проц. зьніжэньня з накладзенага падатку.

Таварышы сяляне, якія не з‘арганізаваліся для гэтай мэты і адчуваюць патрэбу ў палепшаньні сваіх сенажацяй, ідзеце па слядох грамадзян Кастрычнікавага таварыства!

**Дз. Пракапенка.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Калійнае ўгнаеньне—багацьце СССР.

**Каля невялічкага гораду Салікамску Пэрмскай губ. вынайдзены вагромністыя запасы калійнай солі.**

У газэце „Правда“ за 27/X-1926 г. (№ 248), быў надрукованы вельмі цікавы для сельскіх гаспадароў артыкул *„Вынаходка нязьмерных запасаў калія ў СССР“*. Гэта вынаходка калійных мінэральных угнаеньняў на абшарах СССР будзе мець вялікае значэньне ў разьвіцьці нашай сельскай гаспадаркі.

Справа ў тым, што кожны гаспадар, які хоча ўдвоіць, або ўтроіць ураджай свайго поля, апрача гною, добрага і культурнага вырабу поля, павінен яшчэ карыстацца мінэральнымі ўгнаеньнямі. Умелае іх прымяненьне дае найбольшую прыбаўку ўраджаю.

Да вайны найбольш мінэральных угнаеньняў ужывала Бэльгія, Нямеччына і Францыя, калі лічыць колькасьць угнаеньняў на адзінку плошчы пахаці.

Паказваю гэта для чатырох краін за 1908—12 г. на 1 гэктар у кілгр. (фосфарна-кіслых, калійных і азотных угнаеньняў). Бэльгія—13,05, Нямеччына—9,18, Францыя—3,19, Расія—0,384 кілгр.

З гэтага відаць, што Расія за 1908—12 г. у сярэднім ужывала ў год толькі каля 1 фунта мінэральнага ўгнаеньня на 1 гэктар. Гэта да сьмеху малая лічба; у Бэльгіі гэта норма павялічваецца ў разоў 40.

Перад вайною ў 1913 г. Нямеччына здабывала каля 11 мільёнаў тон[2]) сырых калійных угнаеньняў. З гэтай колькасьці 6 мільёнаў калійных угнаеньняў спажывала сама Нямеччына, а 5 мільёнаў прадавала замежы. Галоўным пакупцом гэтых угнаеньняў была Паўночная Амэрыка, якая штогодна плаціла Нямеччыне за іх 15-20 мільёнаў доляраў.

Расія таксама калійныя ўгнаеньні, як і большасьць іншых, прывозіла з Нямеччыны, але вельмі мала.

Прычын малога пашырэньня гэтых угнаеньняў у Расіі, як і ў Беларусі, было некалькі: нізкая культура сельскай гаспадаркі і высокія цэны на мінэральныя ўгнаеньні, калі яны прывозіліся да нас. Так, напрыклад, здабыча аднаго пуда калійнай солі ў Нямеччыне каштуе прыблізна 20 фун. збожжа, а на Беларусі цана ўзрастае да 1 р. 20 к. Гэта высокая цана і была аднэй з галоўных прычын малога пашырэньня мінэральных угнаеньняў да гэтага часу. Пры высокіх цэнах на прывозныя мінэральныя ўгнаеньні іх можна скарыстоўваць толькі пад

---

1) Гэктар—0,9 дзесяцін.
2) Тона 60 пудоў.

тыя расьліны, якія найбольш высока іх аплачваюць (бульба, кораньплоды, гародніна, лугавыя травы) і зусім мала пашыраны ў нас мінэральныя ўгнаеньні пад збожжа.

Зараз-жа пры Савецкай уладзе, калі праводзіцца цэлы шэраг мерапрыемстваў для разьвіцьця сельскае гаспадаркі, мяркуецца пашыраць ужываньне мінэральных угнаеньняў. Так, пяцёхгадовы пэрспэкцыйны плян разьвіцьця сельскай гаспадаркі прадугледжвае толькі для аднэй культур-тэхнікі (культуры балот) завоз у БССР калійнай солі ў такой колькасьці:

| Гады | Колькасьць калійнай солі ў пуд. | Плошча кульруры балот у дзес. |
|---|---|---|
| 1926 . . . . . | 218.078 | 20.484 |
| 1927 . . . . . | 480.965 | 40.899 |
| 1928 . . . . . | 614.644 | 56.596 |
| 1929 . . . . . | 823.000 | 77.793 |
| 1930 . . . . . | 1.033.688 | 99.212 |
| Усяго . | 3.170.385 | 225.035 |

Калі-б 1 пуд калійнай солі лічыць і па рублю, то гэта складае суму звыш трох мільёнаў руб. Такі капіталец мы прымушаны выкідаць ў Нямеччыну за калійную соль, як угнаеньне, для культуры балот. Праўда, даход ад ураджаяў сена, вядома, гэта аплаціць, але-ж ці заўсёды мы павінны плаціць дань замежнаму рынку?

Вось у адказ на гэта пытаньне я і хачу лішні раз успомніць аб артыкулу ў газэце „Правда“ за 27/Х-1926 г. Там гаворыцца, што каля маленькага гораду Салікамску, Пэрмскай губ., на рацэ Каме *вынайдзены нязьмерныя запасы калійнай солі. Гэтая соль ляжыць пластам таўшчынёю ад 50 да 100 мэтраў* на глыбіні 92 мэтр. *і на плошчы каля 40 кв. кілёмэтраў.* Гэта ўсё значыць, што ў СССР залягае ў 5 разоў большы запас калія чым у Нямеччыне, прычым ад паверхні зямлі нашы солі калія знаходзяцца ў два разы бліжэй, а якасьць іх, як будучых угнаеньняў, ня горшыя за нямецкія ці францускія выкапні калія.

Такім чынам, запасы калійных угнаеньняў СССР становяцца на другім месцы пасьля Нямеччыны ў сусьветным абхваце.

Вагромністае эканамічнае значэньне вынаходкі калійнай солі ў СССР не падлягае спрэчцы. Здабываючы ў сябе калійную соль, наша сельская гаспадарка, папершае, будзе мець больш таннае ўгнаеньне і ў большай меры, а, падругое, нам не патрэбна будзе закупляць гэтае ўгнаеньне замежамі і траціць мільёны рублёў.

Наадварот, наша соль можа стаць прадметам вывазу ў другія краіны.

Калійная соль—самае неабходнае ўгнаеньне для сенажацяй, пры культуры балот, кораньплодаў, бульбы, гародніны, у садзе і г. д.

На падставе дасьледчай працы Забалацкай Балотнай гаспадаркі мы ведаем, што шмат дзе нашы нізавыя балоты пры іх культуры *патрабуюць толькі адну калійную соль.*

Угнаеньне іх дадаткова супэрфосфатам ці тамасоўкай не павышае ўраджаю, бо фосфар там ёсьць ад прыроды: ён стагодзьдзямі намываўся ў балота водамі з суседніх палёў.

Усё гэта толькі *шырэй разгортвае значэньне вынаходкі калійных солей, якія ў бліжэйшыя гады шырокаю рэчкаю пацякуць таксама на сенажаці і нівы Беларусі.*

Калі да гэтых калійных угнаеньняў у бліжэйшыя гады ўдасца разгарнуць здабычу фосфарытнай мукі і супэрфосфату з тых каменьняў-фосфарытаў, якія нашы гэолёгі знайшлі ў Калінішчыне, то сельская гаспадарка Беларусі будзе мець адным новым і магутным фактарам больш для шпаркага разьвіцьця і ўтраеньня сваіх ураджаяў.

**С. Тупяневіч.**

---

# Вопыты з пасевамі бульбы на балоце.

*(З матар'ялаў Забалацкай балотнай гаспадаркі).*

Вопыты леташняга году з пасевамі аўса на балоце паказалі, што фосфарнае ўгнаеньне не павялічвае ўраджаю.

Данныя аднаго году з аднэй культурай яшчэ ня могуць лічыцца пэўнымі і затым сёлета вопыт пастаўлен другі раз і павялічан пасевамі на балоце збожжа, клубняплодаў, лёну, канапель і бабовых.

Тут я хачу спыніцца на выніках вопытаў з бульбаю.

Пасеян быў сорт „Вольтман“ сярэдняй вялічыні, па разьліку 80 п. на дзесяціну.

Пры падліку дзялянак асноўнага і паўторнага радоў атрымана ў пераводзе на дзесяціну:

| | | |
|---|---|---|
| Кантроль . . . . . . . | — 440 | пуд. |
| па тамасаўцы . . . . | — 412 | „ |
| „ фосф. муцэ . . . . | — 375 | „ |
| „ калійнай солі . . . | — 1312 | „ |
| „ кал. солі+тамас. . . | — 1237 | „ |
| „ кал. солі+фосф. муцэ | — 937 | „ |

Як відаць, калійная соль у тры разы павышае ўраджай, а фасфарытныя ўгнаеньні, унесеныя асобна ці як дадатак да калійнай солі ўраджай зьніжаюць.

Зімою будуць праведзены хэмічныя аналізы торфу; яны высьвятляць яшчэ пытаньне лябораторна, а пакуль што можна толькі сказаць, што наш тарфянік фосфарных угнаеньняў не патрабуе.

Гэта цікавае зьявішча з натуральн. і эканомічнага боку стане тэмай для шэрагу работ на палёх беларускіх гаспадарак; яно прымусіць культурна-тэхнічныя сілы і сялян дасьледчыкаў пры распрацоўцы балот ня прымацца рацэптаў па ўгнаеньню, а правяраць уплыў кожнага ўгнаеньня на вопыце.

Цяпер зьяўляецца толькі пытаньнем, колькі часу мае ўплыў калійная соль на бульбу. На гэта адказваюць данныя, якія атрыманы, праўда, толькі за 1 год.

| | | |
|---|---|---|
| Без угнаеньня (другі год культуры) . . . | 450 п. на дзес. |
| Па нормальнаму ўгнаеньню, пакладзенаму ў 1925 г. пад авёс . . | 637 „ „ „ |
| Па падвойнаму нормальнаму ўгнаеньню 1925 г. пад авёс . . . . . . | 975 „ „ „ |
| Па ўгнаеньню (15 п. кал. солі і 18 п. тамасаўкі), пакладзенаму ў 1926 г. . | 1162 „ „ „ |

Соль, як відаць мае уплыў на ўраджай бульбы і на другі год, але слаба (187 п. прыбаўкі).

Падвойная норма ўгнаеньня першага году зьберагае вялікі запас угнаеньня і на другі год (525 п. прыбаўкі); але такі спосаб траціць сваё значэньне, бо першагодняя культура (авёс) ад падвойнага ўгнаеньня дае лепшы ўраджай. Угнаеньне, якое пакладзена непасрэдна пад бульбу, дае прыбаўку ўраджаю ў 712 пуд. (замест 525 п.).

Данныя і ўчот ураджаю пасеву паказваюць высокую ўраджайнасьць бульбы на балоце.

Ва ўсіх выпадках ідзе гутарка аб бульбе сорту „Вольтман", сярэдняй велічыні, высеянай па разьліку 80 п. на 1 дзес.

Для высьвятленьня пытаньня, якая па велічыні бульба дае найбольшы ўраджай на балоце, была засеяна аднальковая па вазе колькасьць бульбы (3 ф.) на невялічкіх кавалках балота.

Пасьля ўчоту ўраджаю аказалася, што:

| | |
|---|---|
| вялікія клубні далі | 32,5 фун. |
| сярэднія „ „ | 36,25 „ |
| дробныя „ „ | 36,75 „ |
| рэзаная ўдоўж . | 27,80 „ |

Лічбы аднаго году паказалі, што найменшы ўраджай дае рэзаная бульба, а найбольшую масу—дробныя бульбіны. Сярэднія бульбіны хоць і даюць меншую масу, але больш, чым буйныя.

Буйныя бульбіны даюць самую вялікую бульбу, але яе бывае мала. Сярэдні і дробны пасадачны матар'ял дае бульбіны буйныя, сярэднія і дробныя.

Адсюль відаць перавага сярэдн. і дробн. (але ні ў якім разе не драбяза ў гарэх) пасадачнага матар'ялу, якім значна эканоміцца расход на пасеўны матар'ял. На адным з палёў балотнай гаспадаркі было пасеяна сярэдняй і дробнай бульбы па разьліку на 1 дз. 66 пуд. і ўраджай у сярэднім атрымаўся каля 1000 пудоў.

На падставе вопытных даных балотнай гаспадаркі, можна сказаць:

*1) ва ўмовах Балотнай гаспадаркі, а значыць і ўсяго Лукаўскага масыву, пад бульбу патрэбна толькі калійная соль (15 пуд. на 1 дзесяціну).*

*2) Калійную соль трэба класьці пад бульбу, якая найбольш ураджайна на сьвежараспрацаваных тарфяніках.*

*3) Для пасадкі трэба браць сярэдні і дробны матар'ял 70—80 п. на дзес.*

**А. Шохар.**

# Лубін у пасевах Новазыбкаўскай дасьледчай сел.-гас. станцыі за 1926 г.

Галоўнае пытаньне, над якім працуе дасьледчая станцыя—як угнойваць пескавыя глебы і як дзешавей дастаць угнаеньня. Без угнаеньня ня толькі ня ўродзіць пескавая глеба, але і сугліністая ці супескавая.

Вырашаючы пытаньне аб угнаеньні, мы ў першую чаргу натыкаемся на самае лепшае ўгнаеньне—гной. Але-ж уся бяда ў тым, што яго не хапае. Карыстацца „парашкамі" няма як—яны яшчэ дарагі. Трэба шукаць таго, што па кішэні. Такім угнаеньнем зьяўляецца лубін, які ў нашых умовах пакуль што адзін толькі зможа ўздымаць ураджай і паляпшаць глебу. Па досьледах станцыі лубін і гной уздымаюць амаль што аднолькава ўраджай. У дажджлівую пагоду лубін нават лепей за гной, бо гной скора перагнівае, і вымываецца вадой. Досьледы мінулых гадоў паказалі, што тым больш будзе ўраджай, чым больш будзе заворана зялёнай масы лубіну. Значыць трэба дасягнуць таго, каб лубін нарашчваў большую зялёную масу. Для гэтага яго сваечасова трэба пасеяць. Лубін пасеяны ў адзін тэрмін бывае лепшы там, дзе ніжэй, значыць дзе больш вільгаці. Лубін жоўты, вырасшы на высокім месцы, даў зялёнай масы на дзес.—2696 п., а на ніжэйшым—3829 пуд. Сіні-ж на высокім месцы—2216 п. зялёнай масы, а на нізкім—3248 пуд. Зразумела, што гэта лічбы лепшых пасеваў лубіну ў тым і другім выпадку.

У тым жа годзе станцыя ставіла вопыт па апрабаваньню сартоў лубіну. Усе яны былі пасеяны 5-VI. Лічбы маем наступныя: жоўты лубін на дзесяціну даў зялёнай масы—3790 п.; сіні—2590 п.; белы—2450 п. Мешаніна сіняга з жоўтым дала—2800 п.

Як відаць, найбольшую масу даў жоўты лубін, маса якога якасьцю каштаўней за другія сарты. Ён раіцца станцыяй сялянам сеяць у першую чаргу. У гэтым пасеве лубіну аказалася, што сіні і белы лубін закрасавалі многа пазьней жоўтага. Сіні і белы яшчэ красавалі, а жоўты ўжо меў шэрыя бабкі (бабкі з валаскамі). А трэба, каб было якраз наадварот, бо жоўты пачынае красаваць прыблізна на 64—67 дзень, а сіні—на 52—54. Жоўты лубін закрасаваў у свой тэрмін, а сіні спазьніўся і закрасаваў на 74—76 дзень пасьля пасеву. Гэта тлумачыцца тым, што летняя жара не зрабіла ніякага ўплыву на разьвіцьцё жоўтага лубіну. Значыць, жоўты лубін больш трывалы супроць уплыву дрэнных умоў надвор'я. З другіх пасеваў лубіну, трэба адзначыць пасеў лубіну на сенажаці дзеля грунтоўнага яе палепшаньня і затым пасевы кармовых траў. Сеяўся сіні лубін на дзярніне, якая першы раз была апрацавана цры ўгнаеньні і без яго. Угаеньнем была фосфарытная мука (17 проц.) —36 п. на дзес. і калійная соль (27 проц.)—23 п. на дзес. Вынікі пасеваў наступныя: там, дзе няма ніякіх угнаеньняў, лубін рэдкі, маленькі сядзіць на адным месцы, не кратаецца ў рост і закрасаваў на два тыдні пазьней таго, які быў пасеян на калійнай солі і фосфарытнай муцэ.

На гэтым угнаеньні лубін расьце вельмі буйны і добры. На калійнай солі і фосфорытнай муцэ лубін ў 15—20 разоў лепшы. Гэтае зьявішча сьведчыць нам аб тым, што глеба тут мае надта мала „калія", які ёсьць у калійнай солі. Гэта падцьверджваецца яшчэ і другімі па-

севамі лубіну, у якіх адна калійная соль павялічвае зялёную масу амаль што ў два разы. Сваёю працаю за мінулыя гады, станцыя вырашыла, што дзеля павялічэньня зялёнай масы лубіну трэба ўнасіць перад яго пасевам калійную соль. Другія мінэральныя ўгнаеньні, хоць і робяць уплыў на прырост зялёнай масы, лубіну, але не такі, каб яго раіць сялянам. Патрэбна яшчэ адзначыць, што „кальцый", які зьяўляецца галоўнай часткай мелу, вапны і інш., адмоўна ўплывае на разьвіцьцё лубіну. Галоўны-жа вывад працы над лубінам на працягу ўсіх гадоў існаваньня станцыі—што лепшым лубінам зьяўляецца лубін жоўты, як па якасьці зялёнай масы, так і па яе колькасьці.

**К. Хвалей.**

# Як атрымліваю я кожны год лішніх 12-15 вазоў гною.

На двары каля хлявоў у мяне здаўна нейкая нізіна, як яма, куды заўсёды з усяго двара сьцякае вада. Каб засыпаць гэту яму, трэба шмат пяску і працы; дык я гэту яму выкарыстоўваю інакш. Увосень як выберу бульбу, у той-жа час пасьцягваю ў яму ўвесь бульбоўнік, наверх бульбоўніка ссыплю лісьце сабранае ў садзе, потым скідаю туды розную кару, попел, з хатняй печы і сьмяцьцё з двара, што валяецца там пад нагамі. І вось, такім чынам, пакуль вазіць пад жыта гной, у яме зьбіраецца вазоў 12—15 добрага гною, якія ў некаторых гаспадароў гінуць бяз ніякай карысьці. Такі гной кладзецца толькі пад жыта, а пад бульбу і іншую ярыну вазіць яго ня вельмі добра, бо ў ім знаходзіцца розная кара і трэскі. Можна вазіць яго таксама і на тое поле, дзе вясною сеецца выка-аўсяная мешаніна, а пасьля яе жыта. Пад выкаю ён перагніе і дасьць належную карысьць жыту.

Селянін **Сенька.**

# Два ўраджаі.

Вясковы жыхар Арон Равін у 1894 г. трапіў у кабалу да аднаго з абшарнікаў Калінiншчыны і быў прымушан склаўшымися абставінамі дарэмна распрацаваць пану поўдзесяціны пусташы з умоваю, што першы год ён можа з пусташай рабіць што хоча, абы толькі на наступны год яна была добра распрацавана.

Каб як-небудзь аплаціць сваю працу, А. Равін, які меў такія-сякія веды па сельскай гаспадарцы, узараўшы і паскарадзіўшы пусташ, пасеяў на ёй выку з аўсом. У канцы ліпеня Равін накасіў каля 125 пуд. добрага сена (зямля пад выкай добра перапрэла і не зарасла сарнякамі).

Бачачы, што пусташ можа даць яшчэ што-небудзь за лета, А. Равін пасеяў на ёй бульбу, хоць быў ужо канец ліпеня. Лета было мокрае і каб бульба не пагніла, А. Равін глыбока перааравў поле і пасадзіў бульбу пад плуг. Пры гэтым баразну, у якую садзілася бульба, ён браў на палову ўспульхненай глебы, а другую прыкрываю-

чую—на поўную глыбіню. Бульба была пасаджана, як у градкі; лішак вады ёй ня шкодзіў. Насеньне было ўзята скараспелае, мінулага году.

У кастрычніку ўраджай быў прыбраны і даў 600 пуд. з $1/2$ дзес.

Такім спосабам А. Равін вышаў з кабалы пана і давёў яму, што ён таксама разумее крыху ў сельскай гаспадарцы і здольны да працы так, як іншыя працоўныя і можна зьбіраць два ўраджаі за лета на адным кавалку зямлі і мець карысьці непараўнана больш, чым атрымоўваюць некаторыя сяляне, засяваючы свае поле абы чым і не стараюцца знайсьці лепшы спосаб гаспадараваньня.

Сел. Т. Апет.

---

# Аб занятым папару.

*(З практыкі).*

Мінулым засушлівым летам выраб папару быў вельмі
зроблен несваечасова; дрэнна заворваны гной сох і аддаваў
а паветры ўсе пажыўныя матэрыі. Карысьці ад гэтага пат
нельга.

Кожны гаспадар, які прыслухоўваецца да голасу
навукі і сьвядома адносіцца да сваёй справы, ведае,
пусты папар шкодна, а пры сухім леце гэта ш
лічваецца яшчэ.

Папар трэба араць з восені, а вясною зас
рабіць-жа гэта трэба ўмеючы, інакш заняты па
карысьць.

Свой папар я ару рана ўвосень на поўн
перад наступленьнем дажджоў скароджу і так

Сеяць выку трэба раней, каб ня даць з
пасеву поле трэба добра прыкатаць драўля

На падставе вопыту я бяру на 1
аўса.Павялічэньне колькасьці аўса за ко
каў. Часта здараецца бачыць на заняты
вычкі; пры чым выкі бывае мала, а р
пасевы толькі адбіваюць ахвоту ў па
сеяць больш, як аўса, бо яна наб
разам з каранямі ў глебе для наст
і сена бывае тым смачней і спаж
апрацоўваючы поле так, як был
колькасьць аўса і выкі, можн
ўраджай спажыўнага сена.

Як выка закрасуе, а ав
біраецца і чым хутчэй гэт

Пасьля аўсавычкі я
зараз-жа заворваю. Пра
сьлед і так пакідаю, к
пасьля мешаніны ў з

Выабляючы і
высокія ўраджаі я

(Дуброўна, Ар

цяжкі і
не зямлі,
ару чакаць

аграномічнае
што пакідаць
однасьць павя-

ваць аўса-вычкаю;
ар прынясе малую

ю глыбіню (4 вярш.);
пакідаю на зіму.
ямлі перасохнуць. Пасьля
ым вальцам.
зес. 12 пуд. выкі і 3—4 п,
т выкі не дае добрых выні-
а папары рэдкія пасевы аўса-
сьце толькі адзін авёс. Такія
чынаючых гаспадароў. Выкі трэба
рае з паветры азот, які пакідае
упнае расьліны (жыта). Апрача таго,
ыўней, чым больш у ім выкі. Толькі
о сказана вышэй, і бяручы паказаную
а спадзявацца, што атрымаеш добры

есвыкіне мяцёлку, мешаніна косіцца і пры-
зрабіць, тым лепш.

сею 10—12 пуд. тамасаўкі ці супэрфосфату і
з пару дзён поле праходжу з бараною ў адзін
аб зямля асела да пасеву жыта. Сеецца жыта
звычайны час.

ўгнойваючы поле такім спосабам, я заўсёды маю
к аўса-вычкі, так і жыта.

лан. акр.).

Б. Шымковіч.

---

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Як я разьвёў насеньне канюшыны і цімафейкі.

Ведаючы, што купленае вясною насеньне канюшыны і цімафейкі часта бывае няўсохшым і да таго яшчэ на куплю натрэбны грошы, то я і рашыў завесьці свае насеньне. Дзеля гэтага я пакінуў на насеньне $^{2}/_{3}$ дзес. канюшыны другога году, з падсеянай цімафейкай. Абкасіўшы на нізкіх месцах палёгшую канюшыну, а таксама месцы з густою канюшынай, я, такім чынам, пакінуў на насеньне каля $^{1}/_{2}$ дзес. канюшыны. З прычыны таго, што цімафейка найлепш разьвіваецца толькі на другі год, то і ў мяне на пакінутым кавалку было шмат і цімафейкі. Яна красуе раней канюшыны і калі чакаць пасьпяваньня канюшыны і потым касіць разам увесь травастой, дык цімафейка высыплецца на зямлю. Я паставіў жней, якія зжалі цімафейку і павязалі ў снапы, а канюшына засталася дасьпяваць. Каб пазнаць час прыборкі, я бяру колас цімафейкі і сьцягваю яго са сьцябла. Калі колас легка сьцягваецца і на далоні пасьля расьціраньня яго застаецца шэрае насеньне, то час прыборкі ўжо надышоў, трэба толькі выбраць сухую пагоду. Час пасьпяваньня канюшыны таксама лёгка пазнаць. Трэба расьціраць пабурэўшыя галоўкі рукою. Калі зярно мае цынамонавы колер і раскусваецца, як зярно жыта, а на ніве мала застаецца зялёных галовак, то канюшына гатова для касьбы.

З $^{1}/_{2}$ дзес я намалаціў 3 пуды цімафейкі і столькі-ж канюшыны. Лічачы 1 ф. цімафейкі па 25 кап., а фунт канюшыны 55 кап., поўдзесяціна дала мне 96 руб.

Салому канюшыны я страўліваю каровам з бацьвіньнем морквы і бручкі, што можа быць ацэнена ў 30 руб. Сена канюшыны ад двух укосаў каштавала-б толькі 75 руб., а так я маю (96+30)=126 руб.

Выдаткі на малацьбу канюшыны раўняецца выдатку на касьбу і прыборку другога ўкосу канюшыны.

Калі-ж узяць прамысловае насеньняводзтва, то схадней сеяць на насеньне канюшыну і цімафейку асобна.

Сел.—дасьледчык **М. Зьвераў.**

---

## Як завёў я вусатую азімую пшаніцу.

(*З практыкі селяніна*).

У 1922 г. улетку, ходзячы па полю, я ўбачыў каля жыта 16 каласоў вусатай пшаніцы. Я агарадзіў яе калкамі, а ўвосень абарваў, абцёр і палічыў. Аказалася ўсяго 242 зярняці, якія 25 жніўня я высеяў на гародзе. Усходы пшаніцы былі дрэнныя; вясною 1923 г. яе таксама ня было відаць. Я думаў, што пшаніца прапала, але прыгледзяўшыся ўбачыў дзе-ні-дзе каліўца. Тады я ўзяў граблі, ды пабаранаваў. Пасьля баранаваньня пшаніца пашла адразу ў рост.

Увосень 1923 г. я нажаў поўснапа, а намалаціў $3^1/_2$ фунт. Тую-ж восень 21 жніўня пасеяў пшаніцу на градцы, рукою, а потым забаранаваў. З восені яна была вельмі добрая. Вясною 1924 г. я яе таксама пабаранаваў, пасьля чаго пшаніца вельмі добра пашла расьці і ўвосень аказалася 11 снапоў, якія далі ўжо $32^1/_2$ фунты. Вясною ў мяне быў падрыхтован кавалак поля ў 195 кв. саж., угноены і завораны ў траўні. Я пасеяў на гэтым кавалку 20 фунтаў 23-га жніўня 1924 году і забаранаваў простай бараной. Вясною 1925 г. таксама пабаранаваў, а ўвосень з 11 снапоў у мяне было 53 снапы, з якіх я намалаціў ужо 3 пуд. 3 ф. пшаніцы. 20 фунтаў я пазычыў суседу, бо яна зацікавіла ваколічных сялян, а сам пасеяў 1 п. 20 ф. на добра ўгноеным папары. Сеяў 20-га жніўня 1925 г. З восені яна трохі пацярпела, бо доўга ня было сьнегу, а зямля мая нізкая, зімою-ж вада замерзла на пшаніцы і таксама пашкодзіла ёй. Вясною было гразка і пабаранаваць ня было як, а ў часе красаваньня быў моцны вецер і да таго яшчэ стала суш.

Увосень я нажаў 3 капы і 15 снапоў. Намалаціў толькі 4 п. 3 ф. Каб ня сухмень і каб увосень быў сьнег, то спадзяюся, што кожная капа дала-б шмат болей. Увосень 1926 г. я ее перасартаваў на трыўмфе і пасеяў ужо 3 п., ды пазычыў 20 ф. другому суседу і маю надзею, што налета буду мець шмат вусатай пшаніцы, якую разьвёў за 4 гады з аднаго каліва.

І вось з уласнае практыкі даведаўся я, што з аднаго каліва можна здабыць шмат пудоў і па 1 каліву можна раскідаць шмат пуд. Мая пшаніца, як вырасьце, бывае высокая, колас мае буйны з вусамі, зярно чырвонае.

Сяляне, барануйце вясною азімую пшаніцу і жыта!

(Пухавіцкі раён, Меншчына). Сел. **І. Вярковіч.**

---

# Як з 1800 кв. мэтр. я атрымаў 3 пуд. канюшыны.

(*З уласнай практыкі*).

Пасеў культурных траў у нашых вёсках вядзецца яшчэ з 1914 г. г. зн. з таго часу, як вёска разьбілася на хутары. Цяпер травасеў прыняў такія шырокія разьмеры, што ў кожнага селяніна ёсьць ня менш $^1/_2$ дзес. канюшыны з падсевам цімафейкі. За гэты час сяляне ўпэўніліся ў карысьці яе і так падрыхтоўваюць сваё поле пад пасеў канюшыны, што ў кожнага яна выглядае ў час касьбы, як чарот (асабліва першы раз). Хаця трэба адзначыць, што першыя гады, пакуль ня ўмелі яшчэ добра апрацоўваць і выбіраць поле пад канюшыну, былі спробы з боку некаторых сялян зусім ня сеяць яе, бо расла канюшына дрэнна ад неправільнага дагляду поля. Але з часамі практыка паказала, што адна з даходных культур у гаспадарцы—гэта канюшына (чырвоная). Калі яе сеяць дзеля таго, каб сабраць насеньне і прадаць яго, то за гэтыя грошы можна купіць сабе сена на цэлую зіму. Неабходна адзначыць, што для гэтай мэты большая частка сялян і сее канюшыну, насеньне якой прадае у бліжэйшыя вёскі. У гэтым годзе ў нас было каля 1 дзес. канюшыны першага ўкосу. Сеялі мы яе так: поле ў 1924 г. было пад бульбай; на зіму мы яго ўзаралі і вясной 1925 г.

пасеялі авёс і частку яравога жыта, на якім і была пасеяна канюшына. К восені яе касіць нельга яшчэ было і ўся яна пашла на выпас жывёлы і выглядала ня вельмі добра, бо была радкавата. Вясною гэтага г., як толькі сышоў сьнег і поле трохі абсохла, канюшыну пабаранавалі жалезнымі баронамі ў два сьляды. Было шмат іржышча, асабліва там, дзе расло яравое жыта. Яго граблямі зграблі і зьвезьлі на подсьціл каровам. Хутка прайшоў дожджык і канюшына зазелянела. К канцу ліпеня канюшыну скасілі, пакінуўшы на насеньня кавалак, на якім было больш насенных галовак. Гэты кавалак да 15 жнівеня быў ужо гатоў, хоць і пападаліся яшчэ галоўкі і ня зусім сьпелыя, але на гэта не глядзелі. Скасілі асьцярожна, каб не абмалаціць тык галоўкі, якія ўжо пасьпелі. Надвор'е ў гэты час было вельмі сухое, за два дні і рэшта галовак перасохла так, што і ня трэба лепей. Мы зьвезлі яго ў гумно, на другі дзень змалацілі на малатарні, але як прапусьцілі першы раз, то сустракаліся цэлыя галоўлі, так што патрэбна было прапусьціць яшчэ раз. Намалацілі вялікую кучу мякіны, а зярна ня відаць было, дзе-ні-дзе яно прыкідвалася. Калі прасеялі ўсю мякіну, то чыстай канюшыны было каля трох пудоў. Мякіну адабралі дзеля пасеву для сябе, бо ў ёй было яшчэ шмат насеньня, а чыстае насеньне прадамо. Магілеўскаму насеннаму Т-ву, калі не раскупяць на месцы сяляне вакольных вёсак. Вось як кавалак зямлі ў 1800 кв. мэтраў даў прыбытяк у 60 р., лічачы пуд канюшыны па 20 р. Акрамя таго, мы сабралі пацярухі некалькі пудоў для корму кароў. Я клічу ўсіх сялян-беларусоў сеяць як мага болей канюшыны ня толькі для сена, а і для насеньня, прадаўшы якое купіш сена на целую зіму.

Сел. **Я. М. Савіцкі.**

(В. Шмакі, Чачэвічскага р., Магілеўскай акр.).

---

# Пашырайце плошчу пад бульбаю.

*(Вынікі досьледу).*

Пасьля кораньплодаў я сею авёс без угнаеньня, а пасьля аўса бульбу з угнаеньнем рознай колькасьці і з розным способам сяўбы дзеля вопытаў.

Звычайна я сею бульбу пад плуг радкамі, рад ад раду 12 вярш. і ў радкох расьліна ад расьліны 8 вярш., або 57.600 каліў на дзес. Бульбу адбіраю на насеньне прыблізна такую, якой ідзе прыблізна 8 шт. на 1 ф. і ня рэжу. Мой вопыт даў такія вынікі:

а) Першая дзялянка 94 кв. саж. без угнаеньня. Звычайны пасеў даў 720 пуд. на дзесяціну (вопыт 2-х год);

б) Другая дзялянка 500 кв. саж. Звычайны пасеў з палавінным угнаеньнем даў 1820 пуд. на дзес. (вопыт 2-х год). У абодвых выпадках насеньне бралася 180 пуд. на дзес.[1]);

в) Трэцяя дзялянка 80 кв. саж. засеяна з поўным угнаеньнем, але рад ад раду на 14 вярш. і расьліна ад расьліны на 9 вярш. Рана вясной поле паскародзіў, заараў і зараз-жа ізноў паскародзіў; потым вывез гной па разьліку 2.400 пуд. на дзес., раскідаў і пачаў сеяць. Тую баразну, у якую кладзецца бульба, я раблю на 1 вярш. глыбіні,

---

[1]) Нормы насеньня на дзес. 100—120 пуд. (Рэд.).

або $^1/_2$ в. мялчэй, каб над бульбай заставалася ня менш як $^1/_2$ вяр. пульхнай глебы. Баразну, якой прысыпаю бульбу, бяру на поўную глыбіню, а гной прыграбаю граблямі ў тую баразну, у якую кладу бульбу.

Скончыўшы сеяць у тую-ж хвіліну ў адзін або ў два сьляды скароджу. Далей, як толькі пачне бульба ўсходзіць, яе трэба паскародзіць, а як стане вяршкі ў тры вялічынёю, трэба злёгку асыпаць, праз тры два тыдні асыпаць яшчэ раз і як пачне красаваць асыпаю трэці раз. Пасьля асыпаньня трэба агледзіць, каб ня было засыпанай. Калі зьявяцца сарнякі, то іх полем. Вось гэта ўся праца над бульбаю.

Ад такой сяўбы бульбы я за тры гады маю сярэдні ўраджай 2120 пуд. на дзес., а насеньня трэба 120 пуд. на дзес., або на 60 пуд. менш, як пры звычайнай сяўбе;

г) Чацьвертая дзялянка мела 6 кв. саж. Угнаеньня 1 п. гною на 1 кв. саж. і 2 ф. попелу. Гной клаўся ў 2 разы: першы раз палавіна ўгнаеньня вясной пад першае ворыва, а другая пад другое (апошняе) ворыва. Гэта дзеля таго, каб гной лепш перамяшаўся з зямлёю. Апрацоўка глебы такая самая, як і ў першых выпадках (дзялянках), але тут ужо бульба сеецца не пад плуг, а садзіцца рыдлёўкай.

Падрыхтаваўшы поле канчаткова, трэба яго разьмеркаваць так, каб бульбу пасадзіць роўнымі радамі ўдоўж і ў поперак з такім разьлікам, каб расьліна ад расьліны была на 16 вярш. кругом.

Садзіцца бульба пад рыдлёўку так: адзін бярэ рыдлёўку, а другі бульбу і попел, а лепей утрох, каб трэці ўзяў попел. На азначаным месцы, дзе трэба пасадзіць бульбу, першы выкапвае рыдлёўкай ямку глыбінёю вярш. 3—$3^1/_2$ і зямлю дзяржыць на рыдлёўцы, другі кладзе ў ямку бульбіну, трэці сыпле туды попел з такім разьлікам, каб 2-х ф. хваціла на 9 бульбін (лепей на гэта зрабіць мерку), а тады першы скідае з рыдлёўкі ў тую ямку зямлю; такім чынам бульбіна пасаджана. Калі добра прынаравіцца, то можна хутка садзіць.

Так пасаджаную бульбу можна асыпаць асыпнікам з усіх чатырох бакоў ўдоўж і ўпоперак. Я-ж сваю дзялянку матычыў і асыпаў матыкай, бо яна была пасаджана ў такім месцы, дзе канём ня было як асыпаць, а таксама сваячасна выпалваў сарнякі тры разы на леце і ў рэшце я атрымаў з 6 кв. саж. 12 пуд. 6 ф. бульбы, а асобныя калівы давалі ад $8^1/_2$ да 15 ф. бульбы (па разьліку на дзес.—4860 п.). Насеньне пры такой сяўбе трэба ўсяго 68 пуд. (вопыт аднаго году).

У дадатак да гэтага я зраблю падлік, як выгадней сеяць. Бяру першую дзялянку, на якую я ня траціў угнаеньня і атрымаў з дзес. 720 п.; догляд і апрацоўка ўсіх дзялянак за выключнасьцю чацьвертай аднолькавыя, але насеньня трэба 180 п. (720—180=540 п.)

Саўхоз у нас плаціць за пуд бульбы 25 кап. Выраб поля і прыборка бульбы—47 р. Чысты прыбытак будзе: 25×540=135 р.; 135—47 р. (апрацоўка і прыборка)=88 р.

Другая дзялянка з палавінным угнаеньнем дае ўраджай 1820—180 п. (насеньне)=1640 п.; 25 к.×1640=410 р.; 410 р.—47 руб. (апрацоўка і прыборка)=363 р. Гной 60 вазоў каштуе 60 р. і яшчэ вывазка 6 р.; 363 р.—66 р.=297 руб. Гэта тая карысьць, якую атрымае гаспадар ад пасева з палавінным угнаеньнем 1 дзес. бульбы.

Трэйцяя дзялянка дала на дзес. 2.120—120 п. (насеньне)=2.000 п.; 25×2.000=500 р.; 500 р.—47 р. (апрацоўка і прыборка)=453 р. Цяпер 120 вазоў гною па 1 р. воз з вывазкай будуць каштаваць 132 р. Ад 453 р.—132=321 р. Такую карысьць селянін атрымае ад пасеву 1 дз. бульбы з поўным угнаеньнем.

Бяру астатняю дзялянку, з якой ураджай на 1 дз. быў—4792 п. (4860 п.—68 п.); 25×4792=1.198 р. Адсюль скінем на прыборку, сяўбу і апрацоўку—139 р. угнаеньне і яго вывазка 132 р. і 60 р. за 120 п. попелу, а ўсяго 331 р. Чыстая карысьць будзе 867 р. Такую карысьць атрымае гаспадар, які пасее бульбу такім чынам, як сеяў я на чацьвертай дзялянцы з поўным угнаеньнем гною і 120 п. попелу.

Хоць ураджай я атрымаў і вельмі добры на апошняй дзялянцы, але зразу сеяць багата ня раю, бо гэты вопыт ў мяне аднаго году. К будучаму году я пасею ня менш 150 кв. саж., а як зьбяру попелу то пасею і больш.

Далей прыводжу параўнаньне карысьці ад рознай сяўбы і з розным угнаеньнем супроць няўгноенай дзялянкі.

| №№ дзялянак. | Колькасьць гною ў п. | Ураджай з 1 дзес. у р. | Розьніца у руб. |
|---|---|---|---|
| 1 | 1200 | 88 | — |
| 2 | 2400 | 297 | 209 |
| 3 | 2400—і | 321 | 233 |
| 4 | 120 п. попелу | 867 | 779 |

Я ўпэўнены, што няўгноеная дзесяціна жыта гэтага ня дасьць. Пашырайце плошчу пад бульбаю.

Сел. **Янка Судак.**

# Сейце кораньплоды—яны пазбавяць вас ад бяскорміцы.

Сёлета я засеяў $^1/_{10}$ дзес. кармовымі і сталовымі буракамі, бручкай, турнэпсам і капустай. Ураджай быў такі: *кармавых буракоў* 375 п., *сталовых*—15 пуд., *бручкі*—20 п., *турнэпсу*—25 п. і *капусты*—40 п.

Значыць, з $^1/_{10}$ дзес. я атрымаў 435 п. добрага корму для кароў і 40 п. для сябе. Калі перавесьці гэта на грошы па існуючай рыначнай цане, дык выходзіць, што $^1/_{10}$ дзес. дала мне 103 руб. Якая другая расьліна дасьць гаспадару такі прыбытак?

Мінулае лета было вельмі неспагадным для траў і ярыны. У нашай мясцовасьці ярына прапала зусім. Буракі-ж расьлі добра, ня гледзячы на тое, што яны не паліваліся. Каб кожны гаспадар засеяў $^1/_{10}$ дзес. кораньплодамі, ён пазбавіў-бы сваю жывёлу ад бязкорміцы і быў-бы ўсю зіму з малаком. А карміць жывёлу запраўды няма чым у шмат гаспадароў. Аўсы прапалі, сена мала, саломы таксама няма. Нават саломістую рэзку няма з чаго рэзаць.

Пара і нашым сялянам пачаць вясною думаць, чым карміць скаціну ўзімку; пара, даўно пара кінуць трохполку і перайці на шматпольле; пара пачаць сеяць канюшыну, выку і кораньплоды,—у гэтым ратунак ад бязкорміцы.

(Дуброўна, Аршанск. акр.). **Б. Шымковіч.**

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



## Уцяпляйце хлеў для жывёлы.

Скаціна ў халодным хляве зьядае больш корму, дае менш малака й таму патрэбна ўцяпляць хлявы. Тыя хлявы, якія ўжо ёсьць у гаспадарцы, не патрабуюць асобных грашовых затрат на іх уцяпленьне. Дзеля гэтага патрэбна толькі заканапаціць пазы, шчэліны і дзіркі ў сьценах хлява, а столь зрабіць з жэрдак ці дошчак і на верх накласьці саломы. Калі хлеў ня можна праканапаціць, то тады яго трэба ўцяпліць другім парадкам: зрабіць з калоў прызбы да самай страхі і туды налажыць саломы, моху ці лісьцяў, а столь уцяпліць такім-жа чынам, як і ў першым разе. Калі будынак для скаціны будзе ставіцца новы, дык яго ня трэба будаваць надта вялікім, абы толькі на кожную галаву прыпадала 3—4 куб. саж. Вышыня сьцен будынку павінна быць ня менш 3½ арш. Пры складаньні зруба павінна добра імшыць сьцены мохам, ці пакульлем, а столь зрабіць з дошчак, ці іншых матар'ялаў і накласьці на яго вяршкоў у два ці ў тры саломы ці моху і прысыпаць зямлёю. Вароты ў будынку таксама павінны быць уцеплены саломай ці іншым чым.

Але мала таго, каб хлеў быў цёплы, ён павінен быць і сьветлым. Дзеля гэтага трэба зрабіць вокны ў сьценах хлява з гэтакім разьлікам, каб адзін арш. плошчы вакна прыходзіўся на 15—16 арш. падлогі. Вокны высякаюцца прадаўгаватыя і бліжэй к столі, каб быў роўны сьвет. На зіму ўстаўляюцца рамы.

Дзеля праветрываньня робяцца выцяжныя трубы ў цёплых скотных хлявох, якія пры марозе зачыняюцца асобнай дошкаю, а ў час праветрываньня адчыняюцца.

Падлога ў хляве бывае часьцей з гліны. Яна робіцца гэтак—выкапваюцца ў хляве вяршкі на 3—4 зямля, а замест яе кладзецца гліна і добра ўбіваецца. Затым ня гліну насьцілаюць салому ці іншую падсьцілку.

Тэмпэратура ў цёплым хляве павінна трымаць ня больш 12° для скаціны і ня больш 8° для коняй.

Усімі спосабамі трэба імкнуцца будаваць цёплы хлеў, чысты і сьветлы, бо ў цёплым хляве пры аднэй і тэй-жа колькасьці корму скаціна дасьць у два разы больш малака, чым у халодным. Акрамя гэтага, ў халодным хляве жывёла зьесьць за зіму сена на цэлы воз больш, чым у цёплым, а таксама можа хутчэй захварэць і зрабіць выкідыш. Яшчэ ня позна, старайся ўцяпліць свой хлеў.

Агр. **Т. Анціпенка.**

# Як карміць карову кораньплодамі.

Перш-на-перш трэба мець на увазе, што кораньплоды—корм малакагонны, а таму даваць іх трэба карове ў той час, калі яна доіцца. А то ў нас назіраюцца такія выпадкі, што гаспадар мае нейкую колькасьць гэтых кораньплодаў, але аддае іх або не ў пару, або не таму, каму трэба,—восеньню, напрыклад, калі карова перастае даіцца, або той, якая зусім ня доіцца, а потым наракае на агранома, што яго парада беспадстаўна—корм не дапамагае.

Кожны гаспадар павінен з восені падлічыць, колькі ў яго кораньплодаў і на які тэрмін іх хопіць; калі, напрыклад, карова мае цяліцца ў лютым, дык і корм трэба захаваць да гэтай пары, каб даваць яго пасьля ацёлу.

Цельнай карове значная колькасьць гэтага корму ня толькі не карысна, а нават можа зашкодзіць, таму што ў кораньплодах мала таго матар'ялу, які патрэбен на пабудову касьцей, цялё родзіцца хворым, са слабым шкелетам. Малочным-жа каровам з карысьцю можна даваць гэтага корму пуды тры ў дзень. Трэба толькі мець на увазе, што паколькі гэты корм мае ў сабе мала бялкоў, то для бялку малака трэба абавязкова дадаваць высевак і асабліва макухі. Колькасьць кораньплодаў для аднае каровы ў дзень вылічаецца па колькасьці малака, якую яна дае; на кожны фунт малака трэба даваць 2 фун. буракоў і 3 фун. турнэпсу (кармовая рэпа).

Кораньплоды, якія ідуць на корм, павінны быць здаровымі, перамытымі і пасечанымі, каб жывёла не магла часам падавіцца імі.

Гэты корм карысны і для іншае жывёлы—сьвіней, коняй: ён дапамагаеператраўліваньню яды наогул.

Колькі даваць кораньплодаў на 1 гал. у дзень, паказана ў табліцы:

| Якіх кораньплодаў. | Цялятам 2 год. | Сьвіньням. | Коням. | На адкорм жывёлы. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| Турнэпсу . . . | 10—15 ф. | 10—15 ф. | 10—12 ф. | да 100 ф. | Коням у час цяжкай працы лепш не даваць гэты корм. |
| Морквы . . . | 10—15 ф. | 10--15 ф. | — | да 100 ф. | |
| Буракоў карм. . | 10—15 ф. | 10—15 ф. | 8—10 ф. | 80—120 ф. | |

Пры разнастайным корме і такія высокія нормы кораньплодаў ня будуць шкодзіць.

К. Паніна.

# Шматпольле—дарога да продукцыйнай жывёлагадоўлі.

Якое значэньне мае шматпольле ў жыцьці нашай сельскай гаспадаркі ужо пісалася ня раз на старонках часопісі „Плуг“ і газэты „Беларуская Вёска“. Мала таго, цяпер няма такой вёскі ў Беларусі, куды-б не заглянуў аграном для гутарак аб карысьці шматпольля. Але гэта яшчэ не гаворыць, што пытаньне вырашана. Побач з вёскамі, якія ўводзяць шматпольле, ёсьць вёскі, якія не прызнаюць карысьці шмат-

польля і вядуць сваю гаспадарку так, як вялі іх дзяды, і нават не клапацяцца аб перабудове сваёй гаспадаркі па-новаму.

Паміж тым, само жыцьцё патрабуе зьмены спосабаў гаспадараваньня. Кожны селянін ведае, што суадносіны цэн на прадукты палявой гаспадаркі і жывёлаводзтва значна зьмяніліся ў параўнаньні з даваеннымі часамі. Калі да вайны за адзін фунт масла трэба было заплаціць каля паўпуда жыта, дык цяпер за той-жа фунт масла трэба заплаціць $^3/_4$ пуда, павышэньне на 25 проц. Такім чынам, продукты жывёлаводзтва расцэньваюцца на рынку куды лепш, чым гэта было да вайны. Цяпер назіраецца буйны ўзрост жывёлаводзтва і колькасьць скаціны ўжо перасягнула даваенны ўзровень. Бязумоўна, ухіл нашага сялянства ў бок разьвіцьця жывёлаводзтва можна толькі вітаць, але на вялікі жаль ухіл гэты мае яшчэ аднабокасьць. Сялянства імкнецца павялічыць лік жывёлы і зусім мала зварочвае ўвагі на палепшаньне якасьці скаціны, бяз якой малочная гаспадарка ня можа быць прадукцыйнай.

Што-ж перашкаджае разьвіцьцю малочнай гаспадаркі? Папершае, недахват кармоў у гаспадарцы. Доўга будзе памятны мінулы 1925-26 г., калі сялянству прыходзілася здымаць салому са стрэх і карміць скаціну і такія выпадкі кармовага крызысу для беларускага сялянства—зьявішча ня рэдкае.

У бягучым годзе па папярэднему падліку, таксама можна сказаць, што будзе недахват кармоў, асабліва ў Калінінщчыне і Магілеўшчыне. Падругое, амаль што ў большасьці сялянскіх гаспадарак адсутнічае корм добрай якасьці. А вядома, што адным гуменным кормам, як салома, альбо балотнае сена, падняць продукцыйнасьць малочнай скаціны нельга—патрэбна мець у дадатак да гэтых кармоў яшчэ корм лепшай якасьці, як канюшына і караньплоды.

Здабыць-жа гэты корм гаспадарка можа толькі праз увядзеньне шматпольнага севазвароту. Толькі ў шматпольлі гаспадарка можа атрымаць 5-6 вазоў сена-канюшыны, толькі ў шматпольным севазвароце можна вынесьці караньплоды з прыгуменьня ў поле.

Такім чынам, той, хто заводзіць шматпольны севазварот, ня толькі перабудоўвае паляводзтва для павышэньня ўраджайнасьці, але паляпшае і жывёлагадоўлю, як па ліку, так і па продукцыйнасьці малочных кароў.

П. Заяц.

---

# Жывёлагадоўля Магілеўшчыны.

*(Вынікі абсьледаваньня).*

8 Кастрычніка г. г. інспэктар конягадоўлі НКЗ С. Дыяконенка зрабіў даклад агросэкцыі Магілеўскага АКРЗА аб сваім абсьледаваньні жывёлагадоўлі акругі.

Абсьледаваньне праведзена ад Магілева да Чавусаў у 14 пунктах аглядалася ўся жывёла.

Усюды, дзе праяжджала камісія па абсьледаваньню, можна было бачыць палепшаную швіцамі сялянскую карову. Сяляне ўжо зразумелі карысьць ад палепшанае скаціны. Цяпер перад зоотэхнікамі стаіць вельмі важная задача—навучыць сялян карміць скаціну па нормах, а перад аграномамі—пашырыць засевы караньплодаў і культурных траў для корму скаціны.

Аўцаводзтва абсьледаванай часткі Магілеўшчыны таксама робіць добрае ўражаньне. Сустракаецца выразны тып мэтысаў—оксфордаў з багатай шэрсьцю і з вялікай жывой вагой.

Горш справа з сьвінагадоўляй. Але і тут часта сустракаюцца мэтысы буйнай і сярэдняй ангельскай пароды.

Конягадоўля на Магілеўшчыне—самая заняпалая галіна жывёлагадоўлі. Прычыны гэтаму трэба шукаць у далёкім мінулым. Па матар'ялах конягадоўлі з 1884 г. відаць, што для палепшаньня гэтай галіны амаль нічога ня прымалася. Коні ў Магілеўшчыне трымаюцца выключна для абслугоўваньня сваёй гаспадаркі, кормяцца дрэнна (сенам, а то і саломай). Парода дробная, ад 117 да 137 см. ростам. У гарадох і мястэчках коні буйнейшыя, яны ў большасьці прывезены з Чарнігаўшчыны ці Тамбова.

З палепшаных коняй сустракаецца так званы бежанскі конь, затым мэтыс-ардэн і рэдка першэроны.

Па гутарках сялян відаць, што буйны конь Магілеўскага селяніна не здавальняе. Ён аддае перавагу каню малому, але каб ён быў моцны, рухавы, трывалы і не пераборлівы. Амаль усе сяляне паказвалі на нарвэгаў і фінаў, як на матар'ял для паляпшэньня мясцовай пароды.

Было прагледжана каля 100 коняй і можна сказаць, што конь Магілеўшчыны нічым ня горш норвэга ці фіна. Малы рост яго залежыць ад недаяданьня, халоднага памяшканьня і наагул дрэннага догляду. Апрача таго, на рост і разьвіцьцё коняй мае дрэнны уплыў і ранньяя злучка, часта ў 1 $1/2$ г.

Калі ўсё гэта адхіліць, то магілеўскі конь будзе ня горш норвэга ці фіна. У гэтым напрамку і павінна весьціся ўся праца па палепшваньню конягадоўлі.

Тав. Дыяконенкам узьнімаецца пытаньне аб організацыі на Магілеўшчыне спэцыяльнага выхавальніка беларускага сялянскага каня.

---

# Як прыстроіў я практычнае карыта для адкорму сьвіней.

Апошнія гады ў нас пачалі разводзіць палепшаныя пароды сьвіней. Але тут трэба падумаць трохі аб тым, як даглядаць іх, бо часта бывае, што купіць гаспадар парасят самай лепшай пароды, але як нядобра іх корміць, то сьвіньні выходзяць дрэнныя, часта хварэюць або і зусім прападаюць.

Трэба мець на увазе, што сьвіньня-жывёла далікатная, ёй трэба добрыя умовы; хлеў па магчымасьці цёплы, сьветлы, сухі, корм чысты. Мне часта прыходзілася бачыць, як корм наліваюць у карыта ў якое яны лезуць з нагамі, забруджваюць яго і з гэтай прычыны ня чыста выядаюць; слабейшым сьвіньням заўсёды прыходзіцца есьці корм нячысты. Недаедзены корм ляжыць, кісьне ў карыце да таго часу, пакуль гаспадыня прынясе другі раз. Тут ужо па рознаму бывае: уважлівая гаспадыня гэты брудны корм хоць ня так чыста, але выбярэ і аддасьць надворным сьвіньням, хоць і гэта нядобра. А бывае, што гаспадыня не нясе сама корм, а нясе той, у каго больш вольнага часу—дачка, нявестка і г. д. Гэта ўжо проста вывярне корм у кіслае карыта. Мне нават расказвалі сяляне арцелі „Наташка“, што яны з гэтай прычыны зусім кінулі трымаць сьвіней.

Я тут зрабіў вопыт і хачу пазнаёміць чытачоў з тым, як пабудаваць нацэпнае вядро для сьвіней. Гэта самы лёгкі спосаб. Узяць вяроўку, прывязаць яе за бэльку, або за лату ў страсе; да другога канца вяроўкі прывязаць кручочак з тоўстага дроту і на яго чапляць вядро вышынёю на вяршок ад зямлі, каб яно маго гушкацца. А як гною прыбавіцца, то вядро трэба паднімаць. Так карміць сьвіней надта выгадна: сьвіньня ня ўлезе з нагамі і ня можа вывярнуць корм далоў, бо вядро гушкаецца лёгка. Тут ужо ня зьедзены корм застаецца чыстым і, апрача таго, выгадна тым, што калі сьвіньні кормяцца зімою, то лёгка зьняць вядро і ачысьціць.

Раю ўсім гаспадаром зрабіць так. І гаспадыні лягчэй раздаць корм, і сьвіньня лепш адкорміцца, бо пастаянна будзе есьці з чыстай пасудзіны.

Селянін **К. Запольскі.**

---

# Як берагчы хатнюю жывёлу ад хваробы.

*(Працяг).*

*Паеньне.* Хатнюю жывёлу трэба паіць чыстай вадой, бо гэта вельмі важна для здароўя яе. Часьцей усяго жывёла, як і людзі, хварэе ад таго, што п‘е нячыстую ваду. Пазнаць такую ваду лёгка: яна мутная, сьмярдзючая і нясмачная. Такая вада бывае ад таго, што ў ёй ёсьць шмат розных прымешак, ях напрыклад, іл, гнілыя рэшткі расьлін і жывёл, кал і інш. Апрача таго, у вадзе могуць быць маленькія жывыя істоты—бактэрыі, ад якіх пашыраюцца шмат якія заразьлівыя і сьмяртэльныя хваробы для жывёлы і чалавека, як тыфус, халера, чума, сібірская язва і інш. Асабліва шмат бактэрый бывае ў стаячых водах—азёрах, сажаўках і балотах. Адсюль зразумела, чаму трэба карыстацца бягучай вадой рэчак і крыніц. Вада студняў таксама можа быць добрай, калі іх часта прачышчаюць. Наогул, трэба ўважліва сачыць за чыстатой усякага вадапоя, забараняць зьліваць туды ўсякія нячыстоты, кідаць трупы жывёл, мачыць лыка, шэрсьць, мыць скуры, анучы і інш. Такой асьцярожнасьцю гаспадары захоўваюць здароўе і сваё, і жывёлы. Для здароўя скаціны важна ня толькі чыстата вады, але і час паеньня. Ніколі ня трэба паіць халоднай вадой спацеўшых жывёл, ці летам у самую гарачыню. Шмат якія гаспадары добра ведаюць, што такое „апой“ і як яго трудна вылячыць. Толькі цёплая вада ня шкодна. Калі жывёлу кормяць тры разы ў дзень, то паіць яе трэба два разы. Пры гэтым, калі жывёлу пояць у хляве, то пасуду, з якой яны пьюць, трэба часта вымываць.

*Трыманьне скаціны ў хляве.* Дзеля таго, што наша сялянская скаціна большую частку праводзіць у хлеве, то гаспадар павінен клапаціцца аб яе добрым утрыманьні, каб захаваць здароўе і тым самым працягнуць карысную ў гаспадарцы службу жывёлы. Перш за ўсё хлеў павінен быць прасторны, сьветлы, цёплы і чысты.

Заразьлівая хвароба, забраўшаяся ў брудны цёмны і цесны хлеў, застаецца тут на доўгі час і яе адгэтуль вельмі трудна вывесьці. Заразьлівыя бактэрыі жывуць і размнажаюцца толькі ў такіх дрэнных хлявох. Дзеля таго, каб захаваць скаціну ад хваробы і прадоўжыць працу яе, трэба будаваць стайні ці хлявы з вакном у сьцяне, якое павінна быць вышэй галавы скаціны, з драўлянай стольлю і пад-

логай, з выцяжной трубой у столі і шчыльнымі дзьвярмі. Яшчэ добра бяліць сьцены хлява вапнаю хоць раз у год, што папярэджвае зьяўленьне ў хляве заразы. Трэба адзначыць, што ў сьветлым хляве можна хутчэй заўважыць захварэўшую скаціну.

Пры хлеўным утрыманьні скаціны вельмі важнае значэньне мае чыстата яе цела. Чысьціць жывёлу трэба кожны дзень пучком саломы або шчоткай. Такая ачыстка цела жывёл захоўвае іх ад скурных хвароб—паршаў, лішаёў, каросты, а таксама і ад вошай. Чыстая жывёла заўсёды лепш выглядае, лепш есьць корм.

Калі глядзець за чыстатой малочных кароў, то яны будуць больш даваць малака.

Таксама трэба клапаціцца, каб падсьціл для скаціны быў чысты, мяккі, сухі, цёплы і кожны дзень зьмяняўся. Гэта пасьцель, на якой жывёла адпачывае і ўзмацняе свае сілы пасьля цяжкай працы. Лепшым подсьцілам для скаціны зьяўляецца жытняя салома. Ад бруднага і вільготнага подсьцілу жывёла часта хварэе на вымя, капыты і іншыя прастудныя хваробы.

Вэтэрынар **Жарын.**

# Што трэба ведаць селяніну, каб карова не хварэла на запаленьне вымя.

Надта часта па вёсках каровы хварэюць запаленьнем вымя, але вёска яшчэ моцна верыць у шаптуноў і лічыць, што гэта хвароба здараецца ад благога вока. Пры хваробе каровы сяляне часта зьвяртаюцца не да вэтэрынара, а трацяць час і прыводзяць шаптуна. Пакуль-жа шаптун прыедзе, то кабета ў сваю чаргу часу ня траціць, робіць розныя расьціраньні, компрэсы і карова ад таго ці іншага папраўляецца. Я гэта ведаў, але прышлося на сваёй карове зрабіць вопыт для суседняга жыхарства. 15-га жніўня 1925 г. ацялілася ў мяне карова, якую я думаў прадаць. Пасьля ацёлу я пусьціў яе на канюшыну і там карова пасьвілася, калі я прадаў цялё, то праз два тыдні зрабілася запаленьне вымя. Я хацеў ехаць па ветэрынара, але суседзі мне казалі, што гэта ад вачэй і патрэбен толькі шаптун. Я гэтаму ня верыў, але паслухаў іх і паслаў за шаптуном.

Прыехаў шаптун, узяў пробу малака, доўга шаптаў, потым закапаў яго ў зямлю і сказаў: „Ня бойцеся, пройдзе, гэта мне ня першы выпадак“. Але карова мая не папраўлялася і прышлося яе прадаць на мяса. Тады я пачаў чытаць і знайшоў у кнігах, што карову пасьля ацёлу трэба пераводзіць з падтрымліваючага корму на прадукцыйны паступова, а не адразу, як гэта ў нас робіцца, калі карове даюць з першага дня столькі, колькі яна можа зьесьці і выпіць; гэта і адбіваецца на здароўі вымя.

Раю ўсім гаспадаром ня верыць жаночым казкам, а як мага хутчэй зьвяртацца за вэтэрынарнаю дапамогай, калі захварэе жывёла.

Селянін **К. З.**

# САДОЎНІЦТВА

## Даходнасьць сялянскага гародніцтва.

У верасьні г. г. у вучэбным гаспадарстве Варонецкага сельскагаспадарчага Тэхнікума („Стара-Барысаў“) адбылася акруговая с.-г. выстаўка.

Па заданьням Барысаўскага Акрза інструктарам тэхнікума Г. В. Бабіцкім быў закладзен для выстаўкі сялянскі паказальны гарод, які зацікавіў многіх глядачоў выстаўкі.

Ураджай з гэтага гарода пасьля выстаўкі быў дакладна зважан, вылічаны ўсе затрачаныя на ім работы і іншыя вытворчыя выдаткі. Такім чынам, цяпер мы маем магчымасьць пазнаёміць сялян з вынікамі гэтага досьледу.

Пад гарод адведзена была плошча ў 210 кв. саж. разьбітая на тры кавалкі: 1) капуста, 2) гуркі, моркаў, буракі і памідоры, 3) цыбуля, рэпа, рэдзька, фасоля, бручка.

З гарода атрыманы наступны ўраджай, каштоўнасьць якога азначана па мясцовым рыначным цэнам г. Барысава.

| НАЗВА РАСЬЛІН | Плошча ў кв. саж. | Атрыман ураджай у пуд. | Па цане | Каштоўнасьць ураджаю |
|---|---|---|---|---|
| 1. Капуста белакачанная . . | 70 | 100 | 40 к. | 40 р. |
| 2. Буракі сталов. эгіпецкія . | 18 | 14 | 15 „ | 7 „ |
| 3. Гуркі Вязьнікоўскія . . . | 26 | 44 капы | 25 „ | 11 „ |
| 4. Памідоры . . . . . . | 9 | 3 | 4 р. | 12 „ |
| 5. Морква Нанская . . . . | 13 | 20 | 75 к. | 15 „ |
| 6. Бручка . . . . . . . | 8 | 9 | 30 „ | 2 „ 70 к. |
| 7. Цыбуля расійская жоўтая . | 19 | 2 | 2 р. 40 „ | 4 „ 80 „ |
| 8. Рэдзька мюнхенская. . . | 12 | 11 | 30 „ | 3 „ 30 „ |
| 9. Рэпа Пятроўская . . . | 1 | ½ | 40 „ | 20 „ |
| 10. Фасоля вясковая скарасьпейка . . . . . . | 34 | 1½ | 3 р. 30 „ | 4 „ |
| Усяго . . . | — | — | — | 100 р. |

Расходы на гарод выявіліся ў наступнай суме.

| | |
|---|---|
| 1. Насеньне і расада | 3 р. |
| 2. Гною 140 п. па $1^1/_2$ к. | 2 „ 10 к. |
| 3. Тарфяны кампост 130 п. па 3 к. | 3 „ 90 „ |
| 4. Праца коняй 7 дней па 1 р. 50 к. | 10 „ 50 „ |
| 5. Ручная праца 50 дн. па 60 к. | 30 „ |
| Усяго | 49 р. 50 к. |

Чысты прыбытак ад гароду атрымаўся 50 р. 50 кап., або пераведзены на дзесяціну—577 руб.

Гэтыя лічбы паказваюць, што сялянскай гаспадарцы ёсьць карысьць зьвярнуць сур'ёзную увагу на гародніцтва. З невялічкага вучастку селянін можа ня толькі здаволіць патрабаваньні сваёй сям'і на гародніну, але яшчэ можа атрымаць і грашовы прыбытак ад гарода, які падтрымае яго гаспадарку. Асабліва патрэбна раіць пашырэньне сялянскага гародніцтва ў прыгародных раёнах, дзе заўсёды ёсьць збыт на сьвежую гародніну і дзе лёгка дастаць такія ўгнаеньні, як гной і адкіды гарадзкіх бойняў. Перамешаныя з сухім торфам, гэтыя адкіды даюць для гародаў надзвычайна добры кампост і шпарка падымаюць ураджай не зьніжаючы іх якасьці.

Гародніцтва, праўда, патрабуе шмат працы, але затое пры правільным вядзеньні справы добра аплачвае працу гаспадара. Пашыраючы гародніцтва за лік частковага скарачэньня палёў селянін атрымае з тэй-жа плошчы шмат большы даход параўнаўч з палявою гаспадаркаю. А гэта мае вялікае значэньне пры малазямельлі беларускае вёскі.

С. П. Такмачоў.

## Тэхніка садоўніцтва ў гасп. „Лучкі“ А. Сыцько.

*(Капаткевіцкі раён, Мазыршчына).*

Алесь Сыцько ва умовах Мазыршчыны апрабаваў шэраг каштоўных прыёмаў па тэхніцы садоўніцтва. У сувязі з беднымі пескавымі глебамі ён раіць садзіць прышчэпы 12×12 арш. Пасадку дзічак і прышчэп трэба рабіць, па яго думцы ў залежнасьці ад умоў. У выпадку цёплай і вільготнай вясны пасадку дрэў трэба рабіць, як мага раней (для Мазыршчыны ў пачатку красавіка). Асеньняя пасадка ў пачатку кастрычніка ўдаецца, калі будзе цёплая зіма і шмат сьнегу. Наогул, для Мазыршчыны трэба садзіць у раньнюю вясну, пакуль у глебе трымаецца вільгаць. Раньняя пасадка будзе для гэтага раёну 27 сакавіка, а позьняя 14 красавіка.

Прышчэпы садзяць узросту 3-4 год са штамбам у $1^1/_2$ арш. Пры пасадцы карэньні падразаюцца да здаровага месца і абмакваюцца ў расчын з гліны, каравяку і попелу. Сьліўкам даецца лепшае месца каля сялібы. Костачкавыя пароды ў першыя гады пасадкі не фармуюцца. Пасьля пасадкі абрэзка карон яблынь і ігруш вядзецца ў залежнасьці ад узросту дрэў. Кароны слабейшых дрэў больш падразаюцца, а моцных менш. Калі карона прыросту не дала, тады падразаюцца 2-х гадовыя галіны.

У маладым садзе штогод вядзецца ўспашка пад бульбу, сэрадэлю, выку.

Найбольш трывалы гандлёвы асортымэнт яблынь для Мазыршчыны, у сувязі з нашым дасьледаваньнем гаспадаркі А. Сыцько і яго вынікамі, будзе наступны:

*Бойкен*—вельмі каштоўны зімовы сорт, *Антонаўка*—звычайная (асен.-зімовы). *Пэпін літоўскі* (зім.). *Грагана* (Агрэстаўка)—асен. сорт., *Наліў белы* (летн.)., *Ружовае* (летн.).

Апрача таго, з посьпехам у Капаткевічах распаўсюджаны летнія сарты (ад Сыцько)—Сакаўка, чырвонае салодкае і белае салодкае Сыцько.

З ігруш найбольш распаўсюджаны мясцовыя: *вінёўка, сапяжанка, смалянка, цукравальная буйная*, але можна будзе спадзявацца, што магчыма будзе ўвесьці ў гандлёвыя культуры вельмі каштоўныя замежныя сарты, як міністр „Луцікус“ (асен.), *бэру грумковую* (зім.), *пастарскую* (асен.), якія ў гасп. „Лучкі“ вельмі добра сябе адчуваюць.

Клімат Мазыршчыны вельмі спрыяе, культуры каштоўных сартоў сьліў, чарэсьні.

Вельмі багаты і сталы асортымэнт сьліў мы знаходзім ў А. Сыцько—*вэнгэрку італійскую, вэнгэрку ангельскую, ранклед зялёны, ранклед залаты*, яечнае чырвонае (17 сартоў).

Капаткевіцкі селянін-дасьледчык А. Сыцько апрабаваў блізка сотні сартоў пладовых парод, шляхам апылкаваньня вывеў нават сарты яблык і ігруш.

Чытачы „Плуга“ Слуцкай і Мазырскай акругі, калі патрэбна будзе добрая рада па садоўніцтву, зьвярнецеся да А. Сыцько (пошта Капаткевічы, Мазырск. акругі).

**М. Бурнштэйн.**

---

# Культура дзічак у лютні.

*(Калінішчына).*

З аднаўленьнем садоў на Беларусі патрабуецца шмат дзічак, але каб не рабіць старых памылак выпіскай дзічак з мясцовасьцяй, якія адрозьніваюцца ад Беларусі глебавымі і кліматычнымі умовамі, нам прыдзецца для садовых выхавальнікаў БССР пачаць гадоўлю дзічак у вялікай колькасьці, каб ня купляць іх на Украіне і інш. Для атрыманьня дзічак яблынь і ігруш трэба браць насеньне выключна з пладоў дзікай лясной яблыны ці ігрушы, а не з садовых сартоў.

У жніўні м-цы 1925 г. мы заняліся скупкай у сялян і арандатараў нацыялізаваных садоў пладоў дзікай яблыні і ігрушы.

Узрошчаныя з дзікага насеньня дзічкі даюць нам упэўненасьць у тым, што пасадачны матар'ял будзе добра расьці ў нашых умовах.

У верасьні і кастрычніку 1925 г. нам удалося закупіць 201 п. дзікіх яблык і 49 п. дзікіх ігруш, а ў сакавіку на спробу закуплена 80 п. антонаўкі трохі сапсаванай маразамі.

Выбіраньне насеньня вялося па рознаму. Часткаю выбіралася разрэзваньнем пладоў і выбіраньнем насеньня рукамі, часткаю—расьціраньнем гнілых пладоў у звычайнай ступе і змываньнем мякаці з далейшай лёганькай прасушкай насеньня ў цяньку на дварэ.

Пры першым спосабе адна работніца можа здабыць у дзень $1/2$ ф. насеньня з $1/2$ п. яблык ці ігруш, пры другім—1 ф. у дзень з 4 п. яблык ці ігруш.

Усходжасьць насеньня ў першым выпадку будзе значна вышэй, чым у другім, бо згніваньне пладоў шкодна адбіваецца на ўсхожасьці насеньня.

Частку здабытага насеньня—26 ф. яблык і $2^1/_2$ ф. ігруш я пасеяў ўвосень—28/X-25г., частку захаваў належным спосабам у пяску і засыпаў зямлёю, а частку пакінуў у пладох, якія зложыў у клеці. Вясной-21/IV на прыгатаваным з восені вучастку я пасеяў насеньне, якое было закапана ў пяску і якое заставалася ў пладох.

Першым пачало прабівацца насеньне яблыні асеньняга пасеву. Дзякуючы таму, што ўсходы былі вельмі дружныя, 6-га траўня прышлося пачаць рассадку дзічак на градкі на плошчы 4-х вярш. На працягу дня 1 работніца зможа рассадзіць ад 1400 да 2000 штук пры умове, што адна кабета для 4-х будзе выбіраць дзічкі, падразаць карэньні і падносіць іх да месца пасадкі.

Першыя 3-5 дзён, у зьвязку з сухой пагодай, прыходзілася вечарамі паліваць дзічкі, пакуль яны прыжывалі. Заўважана, што вялікая колькасьць прыжыўшых дзічак прыходзілася на менш дарослыя расьлінкі—з 2-ма лісьцікамі і менш—з 4-ма.

Яблыня ўсходзіла шпарчэй за ігрушы як асеньняга, так і веснавога пасеву.

З 21—23/V значыцца месяцам пазьней, пачалі дружна прабівацца ўсходы яблынь, якія былі пасеяны вясной, з тэй часткі насеньня, што ляжала ў пяску, а тыднем пазней—і тая што была ў пладох. На жаль, сухая пагода перашкодзіла рассадзіць дзічкі апошняга высеву і за малым выключэньнем яны засталіся на месцы.

Лепшыя дзічкі асеньняга пасеву, але пры недастачы рук немагчыма рассадзіць многа ў такі кароткі тэрмін, як 2-4 дні, пасьля якога перасадка дае кепскія вынікі і таму прыходзіцца карыстацца ўсімі 3-мя спасабамі.

На градку ў 10 кв. саж. трэба высяваць ня больш $\frac{1}{2}$-$^3/_4$ ф. насеньня, акрамя таго, пажадана ўжываньне падрэзкі дзічак на месцы і толькі пасьля такога прарэджваньня карыстацца дзічкамі дзеля перасадкі.

Дзічкі перасаджаныя ў сухую погоду на 50% прапалі, ня гледзячы на самы пільны догляд.

Дзічкі ігруш, рассажаныя ў траўні, кепска выглядалі на працягу ўсяго чэрвеня, ня гледзячы на дажджы, а застаўшыяся на месцы растуць досыць добра, хоць і густа сядзелі.

Ад насеньня антонаўкі пасеянага ў сярэдзіне красавіка, спачатку ўсходы былі досыць добрыя, яле ў наступным месяцы пачалі хірэць, а да пачатку ліпня і зусім прапалі.

Гэтым якраз падкрэсьліваецца думка аб асьцярожным ужываньні насеньня садовых сартоў.

Садоваму аддзелу НКЗ трэба прыняць пад увагу, што апошнімі часамі на рынку зьявілася шмат насеньня садовых сартоў і таму неабходна прыняць належныя меры, каб гэты дрэнны матра'ял ня трапіў у школкі.

**Л. Калер.**

# Колькі мёду пчолы зьядаюць за зіму.

*(З 8-мі годняй практыкі пчаляра).*

Пчаляры кажуць, што зімоўка пчол зьяўляецца вельмі важным пытаньнем у пчалярстве. Гэта сьцьвярджае і вядомы расійскі пчаляр М. А. Дзярноў, які кажа: „Мне самому ў пачатку працы з пчоламі выпала шмат няпрыемнасьцяў, але хто заняўся пчалярствам, той яго палюбіць і ніколі ня кіне“.

Цяжка бывае пчолам у доўгую зіму, і зусім іншая справа вясною і летам, калі пчолы сваім гулам ажыўляюць прыроду і ня толькі зьбіраюць мёд, а яшчэ прыносяць і карысьць апылкаваньнем садоў, гародаў і палёў. Так, напрыклад, калі ў XIX стагодзьдзі пачалі разводзіць сады ў Аўстраліі, то сады добра красавалі, але пладоў яны давалі мала. І толькі пасьля таго, як былі заведзены пчолы, сады пачалі даваць такія ўраджаі, аб якіх і Эўропа ня марыла.

Пчаляр ніколі ня можа быць упэўнены, што яго пасека перазімуе добра. У розных падручніках па пчалярству гаворыцца, што аднэй сям'і пчол патрэбна ад 30 да 40 фун. мёду, каб яна вышла на вясну моцнай і здаровай. Добра, калі бывае спагадны год і пчолы набяруць шмат мёду, а як рабіць тады, калі мёдазбор бывае слабы? Вось тут і трэба падумаць.

Я хачу тут падзяліцца з чытачамі сваімі назіраньнямі, якія вяду пры стаўленьні пчол на зіму. Я маю пасеку ў саўхозе Ігнатычы з 30 семьяў, вульлі сыстэмы Лявіцкага і Дадан-Блатта. Гнёзды на зіму папакідаю з 8-9 рамак, у пачатку верасьня, і тут жа адбіраю мёд на зіму на вока. Тое-ж самае раблю ў сярэдзіне красавіка пры вясеньнім аглядзе. Астача к гэтаму часу паказвае, колькі патрэбна было мёду на зіму. Так, напрыклад, увосень 1925 г. на 25 сямей мною была пакінута 750 фун. мёду. Вясною 1926 г. (15 красавіка) засталося ад зімы 375 ф. мёду. Значыць, усяго зьедзена за зіму 375 фун., а ў сярэднім на кожную сям'ю пашло каля 15 фун. Менш усяго зьедзена сям'ёй, якая ў мяне лічыцца пад нумарам 9 (усяго 9 ф.) і найбольш сям'ёй № 5 (19 фунтаў).

Выходзіць, што за зіму аднэй сям'і пчол патрэбна пакідаць з восені 20 фун. мёду, а вясной уся пасека ў руках пчаляра. Трэба пры гэтым прымаць пад увагу, што вясной пчолы ядуць больш, чым зімой, бо кормяць у гэты час чарву і таму на вясну ім патрэбна ня менш 15 фун. мёду.

У наступных нумарох „Плуга“ я напішу, колькі патрэбна сям'і пчол мёду на кожны месяц у паасобку, пачынаючы з верасьня. У мяне ёсьць кантрольны вулей, над якім і вядзецца назіраньне.

**С. Шчарбовіч.**

# ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ

## Аб сплаце землякарыстаўцам за ўкладзеныя ў зямлю і нескарыстаныя імі затраты.

Існуючае зямельнае законадаўства прадугледжвае шэраг выпадкаў, калі зямля можа перайці ад аднаго працоўнага землякарыстаўца да другога. Такі пераход адбываецца іншы раз на падставе згоды землякарыстаўцаў, а часьцей паміма іх волі.

Дабраахвотнае зьмяненьне фактычнага землякарыстаньня адбываецца ў выпадку абмену зямлі, адмовы ад яе ці адданьня ў арэнду. Бяз згоды землякарыстаўцаў зямля можа быць абменена на другую, а то і зусім адабрана пры міжпасялковым ці ўнутрыпасялковым земляўпарадкаваньні, пры пазбаўленьні зямлі для дзяржаўных ці грамадзкіх патрэб, пры абрэзцы лішкаў зямлі ад буйных гаспадарак і г. д.

Для ўзьняцьця вытворчасьці і таварнасьці сельскае гаспадаркі патрэбна няўхільнае захоўваньне прынцыпу сталасьці працоўнага землякарыстаньня. Сутнасьць азначаных прынцыпаў заключаецца ў тым, што дзяржава аддае зямлю ў сталае карыстаньне грамадзян для правільнага працоўнага вядзеньня на ёй сельскай гаспадаркі. Адабраць зямлю, якая знаходзіцца ў бестэрміновым карыстаньні ў працоўнага землякарыстаўца, можна толькі ў парадку і на падставе вызначаных законаў.

Паколькі закон прадугледжвае шмат выпадкаў, калі зямля можа перайці ад аднаго землякарыстаўца да другога, неабходна стварыць такія ўмовы, якія ня ўстрымлівалі-б землякарыстаўца ад укладваньня ў зямлю працы і грашовых сродкаў з апаскі, што гэтыя траты застануцца імі не скарыстаны пры пакіданьні зямлі.

Для гэтага трэба досыць яскрава вызначыць тыя выпадкі, калі землякарыстаўцу аплачваюць уложаныя ім у зямлю і нескарыстаныя сродкі, а таксама вызначыць парадак сплаты.

Існуючае ў нас законадаўства не дае адказу ў гэтым разе на ўсе вынікаючыя на практыцы пытаньні. Зямельны Кодэкс БССР, не вызначаючы парадку сплаты за нескарыстаныя траты пры пераходзе зямлі ў другія рукі, прадугледжвае наступныя выпадкі:

Па арт. 22 Зям. Код. у выпадку адбіраньня зямлі працоўнага карыстаньня для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб, на замен яе адводзіцца зямля ў другім месцы са зваротам затрат землякарыстаўцу. Ніякай платы за зямлю пры гэтым не належыць, бо зямля зьяўляецца уласнасьцю дзяржавы. Землякарыстаўца мае толькі права на аплату матар'яльных страт, якія выклікаюцца пераносам будынку на новае месца, або ачысткай лесу, карчаваньнем пнёў, асушкай балота і інш. на новай зямлі, а таксама на сплату сродкаў, якія ўложаны ім у зямлю і не скарыстаны (студня, грэбля, сад і інш.).

Арт. 105 дае выходзячаму з таварыства права на атрыманьне сплаты за ўкладзеную ў гаспадарку і нескарыстаную працу.

Арт. 116 больш пэўна вызначае права працоўных землякарыстаўцаў на аплату нескарыстаных сродкаў па палепшаньню сенажацяй. Артыкул гэты вызначае правіла, што мэліораваныя сенажаці могуць быць адабраны ад працоўнага землякарыстаўца толькі ў выпадку земляўпарадкаваньня, але пры адабраньні гэтых сенажацяй і аддачы іх іншым землякарыстаўцам, апошнія павінны сплаціць ранейшаму гаспадару ўсе нескарыстаныя ім затраты.

Права на сплату нескарыстаных палепшаньняў іншых ужыткаў, напрыклад балот ці поля, якія пераходзяць пры земляўпарадкаваньні да другіх гаспадарак, зусім не прадугледжаны Зямельным Кодэксам. Але гэта не зьяўляецца перапынкам к сплаце нескарыстаных палепшаньняў усякае зямлі. Акрамя таго, пункт „е“ арт. 173 дае права на сплату ўсякіх нескарыстаных палепшаньняў, а таксама вызначае парадак гэтае сплаты, паказваючы, што ў пастанове аб канчатковым зацьверджаньні выкананага проэкту земляўпарадкаваньня, павінна быць паказана каму, ад каго і якая належыць сплата за страты па палепшаньню зямлі.

Трэба адзначыць, што не ва ўсіх выпадках зьмена існуючага землякарыстаньня павінна выконвацца ў вызначаным парадку сплаты за нескарыстаныя палепшаньні зямлі. Напрыклад, пры зьнішчэньні недахопу землякарыстаньня і замене зямлі, зацікаўленыя бакі самі па згодзе ўтвараюць паміж сабой разьлік. Утвораны імі ўгавор абмену толькі рэгіструецца райвыканкомам, на падставе 26 арт. Зям. Код. і тлумачэньня АКВК ад 20 сакавіка 1926 г. Рэгістрацыя гэта мае на мэце папярэдзіць магчымасьць утварэньня незаконнай умовы на зямлю.

Мае месца таксама аплата зямельных палепшаньняў, калі зямля адбіраецца ад грамадзяніна праз суд за парушэньне ім умоў працоўнага карыстаньня, напрыклад, зроблена незаконная згода (продаж, падарунак, заклад).

Права на сплату нескарыстаных затрат на палепшаньне зямлі павінна быць дана ня толькі землякарыстаўцам, якія трацяць зямлю пры земляўпарадкаваньні, абрэзцы, адбіраньні яе для дзяржаўных ці грамадзкіх патрэб, але і тым, якія дабрахвотна пакідаюць сваю гаспадарку.

Калі землякарыстаўца пакідае зямлю ў выніку перасяленьня ці пераходу да другога роду заняткаў, дык ён можа падаць зямельнаму органу, у распараджэньні якога застаецца зямля, заяву аб найменшым разьмеры сплаты сваіх страт, на якія ён прэтэндуе. Заяву гэту зямельны орган абвяшчае землякарыстаўцу, які атрымлівае ў парадку надзяленьня пакінутую зямлю. Новы землякарыстаўца мае магчымасьць увайсьці дабраахвотна ў згоду з першым наконт сплаты яму нескарыстаных страт, або адмовіцца ад сплаты іх. У апошнім выпадку па іску першага землякарыстаўца справа вырашаецца раённай зямельнай камісіяй. Апошняя ацэньвае паказаныя страты і прысуджае адпаведную суму з новага землякарыстаўца—ранейшаму. Спагнаньне гэтае сумы адбываецца ў парадку выконваньня судовай пастановы.

У выпадку пераходу зямельнага кавалку ад аднаго землякарыстаўца да другога, пры адбіраньні зямлі для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб, пры адбіраньні лішкаў зямлі ад буйных гаспадарак, мэтазручна вызначыць іншы парадак ацэнкі матар'яльных страт, якія засталіся нескарыстанымі першай гаспадаркай.

У гэтых выпадках, ацэнку нескарыстаных страт па зямельнай мэліорацыі павінен учыняць земляўпарадкавацель з прыцягненьнем да гэтае справы прадстаўніка сельсавету і сьвядомых людзей.

Вынікі ацэнкі заносяцца ў земляўпарадкаваўчы проэкт, які на агульнай падставе даецца двум старанам і разглядаецца потым зямельнымі камісіямі. Пастанова апошніх выконваецца ў гэтай частцы аднačасна з пераходам удзельнікаў земляўпарадкаваньня да землякарыстаньня ў новых межах.

Апрача вызначэньня парадку ацэнкі і прысуду нескарыстаных страт, трэба яшчэ ўчыніць магчымасьць выкананьня ўзложаных на землякарыстаўца абавязкаў па сплаце гэтых страт.

У гэтых мэтах варта было-б стварыць пазычковы крэдыт для палягчэньня разьлікаў паміж старымі і новымі працоўнымі землякарыстаўцамі. Часьцей-жа такое адбіраньне зямлі праводзіцца для шляхоў зносін, вайсковых лягераў, стрэльбішчаў, аэродромаў, а таксама для прадпрыёмстваў Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі.

**А. Вішнеўскі.**

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 51. Ці траціць права член двара, ня вышаўшы з яго законным парадкам, на права лічыцца членам гэтага двара. Таксама ці траціць ён у гэтым выпадку і права на маемасьць двара.

Адказ. Член двара, які пашоў на трудавыя заработкі і не дапамагаў у працягу двух севазваротаў ні працай сваёй ні грашыма агульнай гаспадарцы двара перастае быць членам яго. У гэтым выпадку ён траціць права ня толькі на зямлю, але і на іншую маемасьць свайго быўшага двара.

Пытаньне 52. Ці мае права грамадзянін на зямлю, якую ён атрымаў у парадку земляўпарадкаваньня, калі на гэтай зямлі ён не працуе, а перадаў яе свайму бацьку, з якім ня жыве разам. Калі ня мае, то якім чынам гэта зямля ад яго можа быць адабрана. (Мэдфак БДУ).

Адказ. За моцаю арт. 9 і 58 Зем. Код. зямля перадаецца грамадзянам для правільнага вядзеньня на ёй сельскай гаспадаркі сваёй працай. Калі землякарыстацель, надзелены зямлёю, не працаваў і не працуе на ёй, то зямля можа быць адабрана ад яго зямельным органам (сельсаветам, райвыканкомам па зямельнаму стану) ці зямельным об'яднаньнем толькі прад'яленьнем іску аб гэтым у раённай зямельнай камісіі. Пры разглядзе справы атветчык можа прадставіць довады аб прычынах неапрацоўкі ім самім зямлі. Тут-жа павінна быць вырашана, ці ўваходзіць атветчык у двор свайго бацькі, ці складае самастойны двор. Вырашэньне гэтага патрэбна для разгляду пытаньня аб тым, ці меў правы атветчык перадаць атрыманую ім зямлю бацьку.

Пытаньне 53. У якім парадку разглядаецца хадайніцтва двух паасобных двароў аб аб'яднаньні іх у адзін і які пры гэтым бярэцца мыт. (Менская Акрземкам).

Адказ. Дабрахвотнае а'яднаньне, двароў праводзіцца імі фактычна. Калі двары хочуць аформіць гэта аб'яднаньне, то могуць згоду сваю запісаць у агульную кнігу зьдзелак, якая вядзецца зямельным сталом райвыканкома. Гэта запісь ніякім мытам не аплачваецца.

Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

**Выданьне Наркамзему.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі, Шукевіч,*
*А. Смоліч, С. Тупяневіч*